# ЗА ШЫРОКІ АГЛЯД КАЛГАСНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

*(Да справаздачна-перавыбарчай кампаніі калгасаў)*

З 25 лютага па 1-е красавіка праводзіцца справаздачна-перавыбарчая кампанія кіруючых органаў калгасаў—праўленьняў калгасаў і калгассаюзаў. Гэтую кампанію трэба ператварыць у масавую палітычную кампанію, у якую ўцягнуць усю калгасную масу беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў.

Мы маем вялізарнейшыя посьпехі ў справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Па Савецкаму Саюзу калектывізавана звыш 62 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, асобныя раёны СССР маюць суцэльную калектывізацыю. У нас у БССР калектывізавана звыш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Маецца шмат добрых прыкладаў у арганізацыі калгаснай вытворчасьці. Усё гэта павінна быць шырока папулярызавана ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі калгасаў. На канкрэтных фактах і прыкладах, а яны маюцца ў кожным раёне, трэба паказаць бедняку і серадняку, якія не ўвайшоў яшчэ ў калгас, перавагу буйнай калектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай. Адначасова ня трэба хаваць і маючыхся яшчэ недахопаў у калгасах. Шырока разгорнутая крытыка і самакрытыка ўсёй калгаснай масы—павінна дапамагчы выявіць нашы недахопы ў працы калгасаў і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню рашэньняў партыі ў калгасным будаўніцтве.

Пытаньні арганізацыйна гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў—ажыцьцяўленьня 6 умоў тав. Сталіна павінна быць практычна пастаўлены на кожным справаздачна-перавыбарчым сходзе. Правільная арганізацыя працы, сапраўднае ўнядрэньне зьдзельшчыны, ліквідацыя абязьлічкі, дасканалы ўлік працы кожнага калгасьніка, шырокае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, унядрэньне агратэхнікі—галоўнейшыя ўмовы арганізацыі гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў. Выключную ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю брыгад, таму што **„важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада“** (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4-II—32 г.).

Абязьлічка—зьлейшы вораг калгаснай вытворчасьці. Аб гэтым пытаньні вельмі шмат гавораць у калгасах і мала яшчэ робяць практычнага. Вядомая справа, што гаворкай ды прыгожымі рэзалюцыямі абязьлічку ня зьнішчыш, патрэбна практычная работа ў гэтым напрамку. У сваёй прамове на зьезьдзе гаспадарнікаў тав. Сталін сказаў, што прамовамі і заклінаньнямі ніколі абязьлічку ня зьнішчыш, што **„абязьлічка сама ніколі ня зьнікне. Яе можам і павінны зьнішчыць толькі мы самі“** (Сталін).

У час справаздачна-перавыбарчай кампаніі трэба мабілізаваць увагу калгасьнікаў і калгасьніц на выкананьне пастаўленых партыяй задач па разьвіцьцю сацыялістычнай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Не агульнымі разважаньнямі, а практычна трэба паставіць гэтае пытаньне ў кожным калгасе (укамплектаваньне жывёлагадоўчых таварных фэрм, барацьба з стратамі асабліва ў сьвінагадоўлі, павялічэньне ўдойлівасьці кароў і таварнасьці прадукцыі, догляд і кармленьне жывёлы і г. д.).

**„Веснавая с.-г. кампанія 1932 году набывае вялізарнае гаспадарча палітычнае значэньне ў выкананьні праграмы чацьвёртага—заключнага году пяцігодкі“** (з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР). Справаздачна перавыбарчая кампанія павінна зьявіцца генэральнай праверкай падрыхтаванасьці калгасаў да веснавой сяўбы і мабілізацыяй мас калгасьнікаў на ліквідацыю прарываў у гэтым напрамку (складаньне вытворча-фінансавых плянаў, рамонт інвэнтару, засыпка і ачыстка насенных фондаў і г. д.).

Перавыбары кіруючых органаў калгасаў будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Кулацтва і іх агентура будуць імкнуцца правесьці ў склад кіруючых органаў сваіх абаронцаў і гэтым самым пашкодзіць пасьпяховаму калгаснаму будаўніцтву. Партыйныя арганізацыі павінны арганізаваць масу калгасьнікаў на барацьбу з кулаком і яго агентурай. Рашуча ачышчаючы калгасы і іх кіруючыя органы ад клясава-варожых элемэнтаў, забясьпечыць склад праўленьняў такімі работнікамі, якія-б на справе даказалі адданасьць сацыялістычнаму будаўніцтву.

Адной з важнейшых і асноўных задач справаздачна-перавыбарчай кампаніі—гэта ўзмацненьне кіруючай ролі партыйнай ячэйкі калгаснай вытворчасьцю. Трэба забясьпечыць склад кіруючых органаў камуністамі, камсамольцамі і лепшымі перадавікамі з калгасьнікаў і калгасьніц. Процант жанчын у складзе новых праўленьняў і рэўкамісіі калгасаў павінен быць ня менш як 35 проц.

У час справаздачна-перавыбарчай кампаніі калгасаў трэба шырока папулярызаваць сярод мас калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў рашэньні XVII канфэрэнцыі УсеКП(б) і XIV зьезду КП(б)Б і пастанову ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага гэтага году „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў“. На аснове прапрацоўкі і папулярызацыі гэтых пастаноў, трэба мабілізаваць масы калгасьнікаў і ўсё працоўнае сялянства на выкананьне і перавыкананьне плянаў чацьвертага заключнага году пяцігодкі, на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

**С—ка.**

## Райкалгассаюзы, слухайце! Клічаў выклікае на сацспаборніцтва!

### У кожны калгас—часопіс „Шляхі калектывізацыі“

Надаючы вялікае значэньне, якое мае часопіс „Шляхі калектывізацыі“ ў арганізацыі калгаснай вытворчасьці,—Клічаўскі райкалгассаюз разгарнуў шырокую работу па распаўсюджаньні часопісі сярод калгаснай масы. Акрамя гэтага, райкалгассаюз выпісаў за сродкі з культфонду для калгасаў часопісь „Шляхі калектывізацыі“ на 1932 год у ліку 350 экзэмпляраў.

Інструктары райкалгассаюзу ўзялі на сябе абавязак пры кожным выезьдзе ў калгасы праводзіць сярод калгасьнікаў масавую работу па распаўсюджваньні гэтай часопісі.

Райкалгассаюз паставіў перад сабой задачу: у кожны калгас—ня менш 3-х экзэмпляраў часопісі „Шляхі калектывізацыі“.

Клічаўскі райкалгассаюз выклікае ўсе райкалгассаюзы БССР на выпіску часопісі „Шляхі калектывізацыі“ для ўсіх калгасаў за сродкі з культфонду, а таксама на лепшае правядзеньне сярод калгасьнікаў масавай работы па распаўсюджаньні часопісі. Вынікаў чакаем праз часопісь „Шляхі калектывізацыі“.

Старшыня Клічаўскага РКС **Тоўпінец.**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

4
1932
ЛЮТЫ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ



# РАШЭНЬНІ XVII КАНФЭРЭНЦЫІ УсеКП(б)—У МАСЫ

## Дырэктывы да складаньня другога 5-гадовага пляну народнай гаспадаркі СССР (1933-1937 гг.)

*Рэзалюцыя XVII канфэрэнцыі УсеКП(б) па дакладах т.т. МОЛАТАВА і КУЙБЫШАВА*

### I. Аб выніках першай пяцігодкі

1. Посьпехі барацьбы за выкананьне пяцігодкі за чатыры гады знайшлі сваё выяўленьне ў пераможным будаўніцтве сацыялізму ў СССР. Асновай гэтых посьпехаў сацыялізму зьяўляюцца палітыка індустрыялізацыі, уздым цяжкай індустрыі, разгортваньне вырабу сродкаў вытворчасьці. За мінулы пэрыяд наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі і тым самым **створана ўласная база для завяршэньня рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі**, база сацыялістычнай буйнай машыннай індустрыі. За апошнія гады разгарнулася будаўніцтва новых прадпрыемстваў і ўжо створаны прадпрыемствы, якія пакідаюць ззаду ўзровень эўрапэйскай тэхнікі па некаторых галінах промысловасьці. Адначасова з гэтым значна вырасла лёгкая прамысловасьць, а тэмп разгортваньня харчовай індустрыі намнога перавысіў заданьні пяцігадовага пляну.

2. У сельскай гаспадарцы адбыўся карэнны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі сацыялістычныя формы (калгасы і саўгасы) Савецкі Саюз **з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага прыстасаваньня машыннай тэхнікі**. Гэта перамога сацыялізму, якая вырашае самую важную і самую цяжкую задачу пралетарскай рэвалюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне.

3. Важнейшым вынікам сацыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, які прадрашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне клясаў. Завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне „хто-каго" вырашана супроць капіталізму на карысьць сацыялізму поўнасьцю і беспаваротна і ў горадзе і ў вёсцы.

4. У рэзультаце ажыцьцяўленьня бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі ў асноўным паразытычных клясаў, ужо ў першым пяцігодзьдзі ліквідуюцца асновы і крыніцы эксплёатацыі чалавека чалавекам, расьце недасяжнымі для капіталістычных краін тэмпамі народны даход, зьнішчаны беспрацоўе і галеча (паўпэрызм), зьнішчаюцца „ножніцы цэн" і процілегласьць паміж горадам і вёскай, расьце з году на год дабрабыт і культурны ўзровень рабочых і працоўных сялян, падае сьмяротнасьць і хутка ўзрастае народанасельніцтва СССР.

**5. Усе гэтыя дасягненьні зьяўляюцца рэзультатам** грандыёзнага росту рэвалюцыйнай актыўнасьці найшырэйшых мас рабочай клясы і працоўных сялян, рэзультатам вялізарнага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, нарэшце, рэзультатам ленінскай палітыкі нашай партыі, якая пасьлядоўна праводзіць разгорнутае па ўсім фронце наступленьне на капіталістычныя элемэнты.

6. Партыя дабілася гэтых пасьпехаў у барацьбе з буржуазнай тэорыяй трацкізму аб немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне і няўхільнасьці рэстаўрацыі капіталізму, — трацкізму, які ператварыўся цяпер у перадавы атрад буржуазнай контррэвалюцыі.

Партыя дабілася гэтых посьпехаў у барацьбе з правым апартунізмам, лінія якога заключалася ня толькі ў зрыве палітыкі сацыялістычнага наступленьня, але і ў простай капітуляцыі перад кулацтвам і буржуазнымі элемэнтамі.

Толькі ў рашучай барацьбе як з „левым“, так і з правым апартунізмам і з прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію нашай партыі ЎсеКП(б) забясьпечыла **стварэньне прадпасылак для выкананьня першай пяцігодкі за чатыры гады разгром клясавага ворага і перамогу сацыялізму ў СССР.**

## II. Асноўныя задачы другой пяцігодкі

Посьпехі ў ажыцьцяўленьні першай пяцігодкі падрыхтавалі базу для далейшага яшчэ больш магутнага росту сацыялізму ў СССР.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) лічыць, што вялізарныя прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, узрастаючая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і калгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне прадукцыйных сіл сацыялістычнай гаспадаркі ў другім пяцігодзьдзі, на аснове якога будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР. Канфэрэнцыя лічыць, што асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

На аснове ліквідацыі паразытычных клясавых элемэнтаў і агульнага росту народнага даходу, які цалкам ідзе ў распараджэньне працоўных, павінен быць дасягнут значна больш шпаркі ўздым дабрабыту рабочых і сялянскіх мас і пры гэтым рашучае паляпшэньне ўсёй жыльлёвай і камунальнай справы ў СССР. Канфэрэнцыя лічыць, што забесьпячэньне насельніцтва асноўнымі спажывецкімі таварамі і ў тым ліку прадметамі харчаваньня павінна да канца другой пяцігодкі павялічыцца ня менш, чым у два-тры разы супроць канца першай пяцігодкі.

1. Ажыцьцяўленьне гэтых задач магчыма толькі на базе разгорнутай **тэхнічнай рэканструкцыі** ўсёй народнай гаспадаркі—прамысловасьці, транспарту, сельскай гаспадаркі.

Да пачатку першай пяцігодкі СССР у асноўным закончыў адбудоўчы пэрыяд і за апошнія гады ўступіў на шлях рэканструкцыі па радзе асноўных галін народнай гаспадаркі—у прыватнасьці, у мэталюргіі, машынабудаўніцтве, вугальнай прамысловасьці, не гаворачы ўжо аб праведзенай яшчэ раней рэканструкцыі ў галіне нафтавай прамысловасьці. Асаблівае месца займае шырока разгорнутая рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, якая быстра перабудоўваецца на новай тэхнічнай базе.

Дасягнутыя за першую пяцігодку посьпехі ў гэтай галіне зьяўляюцца, аднак, толькі пачаткам ажыцьцяўленьня тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Між тым, пры наяўнасьці цяперашняга невыстарчальнага, да таго-ж устарэлага і зношанага абсталяваньня прамысловасьці і транспарту, не гаворачы ўжо аб сельскай гаспадарцы, без правядзеньня тэхнічнай рэканструкцыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, без падвядзеньня пад іх навейшай машыннай тэхнікі,—нельга забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, якіх патрабуе ажыцьцяўленьне асноўных задач другога пяцігадовага пляну.

Таму XVII канфэранцыя ЎсеКП(б) лічыць, што **асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі.**

Вядучая роля ў завяршэньні тэхнічнай рэканструкцыі належыць **савецкаму машынабудаўніцтву**. Канфэрэнцыя лічыць неабходным павялічыць прадукцыю машынабудаўніцтва да канца пяцігодкі ня менш, чым у тры-тры з паловай разы супроць 1932 году, з тым, каб усе патрэбнасьці рэканструкцыі прамысловасьці, транспарту, сувязі, сельскай гаспадаркі і г. д. былі абслужаны ўнутраным вырабам найбольш дасканалых і сучасных машын.

Важнейшым элемэнтам тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі зьяўляецца стварэньне **навейшай энэргетычнай базы,** заснаванай на найшырэйшай электрыфікацыі прамысловасьці і транспарту і паступовым укараненьні электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку, са скарыстаньнем вялізарных рэсурсаў воднай энэргіі, каменавугальных пакладаў асноўных і мясцовых басэйнаў, мясцовых відаў апалу (торф, сланцы). Канфэрэнцыя лічыць бязумоўна неабходным дабіцца ў 1937 г. вырабу электраэнэргіі ня менш 100 мільярдаў *квт* гадзін супроць 17 мільярдаў у 1932 г., здабычы вугалю ня менш, чым у 250 мільёнаў тон супроць 90 мільёнаў у 1932 г. і павялічэньня здабычы нафты ў 2 з паловай—тры разы.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) лічыць, што ў адносінах важнейшых галін народнай гаспадаркі павінны быць у другім пяцігодзьдзі пастаўлены наступныя задачы:

а) Па **чорнай мэталюргіі** выходзіць з выплаўкі ў 1937 г. ня менш 22 мільёнаў тон чыгуну з забесьпячэньнем неабходнага для машынабудаўніцтва выпуску якасных сталяй, для чаго правесьці поўную тэхнічную рэканструкцыю чорнай мэталюргіі з пабудовай новых заводаў, з устаноўкай новага магутнага абсталяваньня, са старannай падрыхтоўкай сырцу, укараненьнем электрапрацэсаў і скарыстаньнем пабочных прадуктаў.

б) Па **каляровай мэталюргіі** дасягнуць у працягу пяцігодзьдзя, скарыстоўваючы сэлектыўную флётацыю (мэтады плаўкі распыленых руд), новыя віды сырцу і г. д.—выплаўкі медзі, сьвінцу, цынку, алю-

**мінія і рэдкіх элемэнтаў у разьмерах, неабходных для поўнага задавальненьня патрэбнасьцяй краіны.**

в) Па **хэмічнай прамысловасьці** поўнасьцю ліквідаваць адставаньне ад тэмпаў разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё асноўнай хэміі і, перш за ўсё, на выраб угнаеньняў, для чаго забясьпечыць пераабсталяваньне заводаў і ўсямернае разгортваньне новага будаўніцтва.

г) Па **чыгуначным транспарце** правесьці карэнную рэканструкцыю чыгуначнага транспарту з разгортваньнем будаўніцтва новых чыгунак ня менш 25—30.000 кілёмэтраў, з пабудовай некалькіх дзесяткаў новых мастоў праз галоўныя водныя шляхі, з увядзеньнем магутных паравозаў і вялікагрузных вагонаў, з разгортваньнем электрыфікацыі на радзе дарог, з шырокім увядзеньнем аўтасцэпкі, аўтаблёкаваньня, цёплавозаў. Разгортваньне чыгуначнага транспарту павінна забясьпечыць паскарэньне ўздыму гаспадаркі раду раёнаў у нацыянальных рэспубліках, патрэбы якіх зусім нездавальняюча абслугоўваліся ў мінулым.

Па **водным транспарце** — правесьці рэканструкцыю морскага і рэчнага флёту, асваеньне новых і паляпшэньне існуючых водных шляхоў і будаўніцтва абсталяваных рэчных і морскіх портаў.

Па **дарожным і шасэйным** будаўніцтве і **аўтамабілізацыі** забясьпечыць больш шпаркі тэмп разьвіцьця, чым па іншых відах транспарту.

**Паветраныя зносіны разьвіць** па ўсіх асноўных кірунках, як адно з важнейшых сродкаў сувязі з аддаленымі раёнамі і з буйнымі прамысловымі цэнтрамі.

Вялікае разьвіцьцё надаць **сувязі ўсіх відаў**, у асаблівасьці радыё.

д) Па **лёгкай і харчовай прамысловасьці** ўсямерна разгарнуць вытворчасьць важнейшых галін на аснове стварэньня буйнай машыннай індустрыі і значнага пашырэньня с.-г. сыравой базы і забясьпечыць патраеньне норм душавога спажываньня, выходзячы пры гэтым з неабходнасьці ўзмоцненага разьвіцьця лёгкай і харчовай прамысловасьці ў новых раёнах, а іменна ў раёнах вырабу с.-г. сырцу.

Па **лясной прамысловасьці**, якая мае выключнае значэньне для ўсяго будаўніцтва, забясьпечыць патрэбныя тэмпы росту і правядзеньне мэханізацыі.

е) Па **дробнай саматужнай прамысловасьці**. Прамкаапэрацыі значна ўзмацніць выраб прадметаў шырокага спажываньня і разгортваньне промыслаў і вытворчасьцяй, якія абслугоўваюць сацыялістычную прамысловасьць і сельскую гаспадарку, на аснове поўнага каапэрацыйнага ахопу дробнай саматужнай прамысловасьці.

ж) Па **сельскай гаспадарцы** ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб машынатрактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю с.-г. вытворчасьці. Задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і сацыялістычнага перавыхаваньня калгасных мас павінны стаяць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы.

Саўгасы павінны пашырыць сваю вытворчасьць па ўсіх лініях, у тым ліку па лініі тэхнічных культур і жывёлагадоўлі і ўзмацніць сваю ролю ўзораў сацыялістычнай арганізацыі вытворчасьці і дастасаваньня да сельскай гаспадаркі высокай машыннай **тэхнікі і ўсіх дасягненьняў сучаснай аграноміі і заа**тэхнікі.

У галіне **жывёлагадоўлі** ў другой пяцігодцы дабіцца такога павялічэньня стада і росту таварнай прадукцыі, якое адпавядала-б вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэтага партыя дабілася ў першую пяцігодку ў адносінах да збожжавай праблемы.

Па бавоўне і ільне забясьпечыць ня менш, чым падваеньне, а па цукровых бураках — патраеньне валавой прадукцыі.

Усе гэтыя мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы патрабуюць далейшага і яшчэ больш шпаркага ўздыму **збожжавай** гаспадаркі з тым, каб збожжавая прадукцыя да канца другой пяцігодкі дасягнула ня менш. чым 1.300 мільёнаў цэнтнэраў. Таму цэнтральнай задачай другой пяцігодкі павінна стаць **рашучае павышэньне ўраджайнасьці** калгасных і саўгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня аб барацьбе з засухай.

2. Ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна зьвязана са справай **аўладаньня тэхнікай** нашымі гаспадарчымі кадрамі, са стварэньнем шырокіх новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян і з рашучым узьняцьцем культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных. Колькасны рост тэхнічных кадраў у Савецкім Саюзе ні ў якай меры не павінен зьмяншаць значэньня пытаньня аб іх навуковай кваліфікацыі, аб абавязковасьці адпаведнага вывучэньня ўсіх асноўных дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі. Вырашэньне праблемы тэхнічных кадраў ёсьць важнейшы элемэнт бальшавіцкага ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі і пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму.

Усямернае паскарэньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае ўзьняцьцё ўсёй справы тэхнічнай асьветы і ўзмоцненае матэр'яльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР—такавы бліжэйшыя задачы, якія прадстаўляюць асноўную частку агульнай задачы пабудовы сацыялізму ў нашай краіне.

3. Для забясьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў уздыму ўсёй народнай гаспадаркі і лепшага задаваленьня запатрабаваньняў шырокіх мас гораду і вёскі ў адносінах тавараў шырокага спажываньня першаступовае значэньне мае **разгортваньне таваразвароту**. Разгортваньне таваразвароту—перш за ўсё раздробнага—і правядзеньне прынцыпу гаспадарчага разрахунку ва ўсёй гаспадарчай рабоце зьяўляецца важнейшым стымулам для выяўленьня вялізарных і ўсё яшчэ нявыкарыстаных унутраных рэсурсаў, якія ёсьць у нашай гаспадарцы і якія спрыяюць паскарэньню росту сацыялістычнага накапленьня, і тым самым узмацняюць матэр'яльную базу ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва. Разам з тым толькі на аснове разгортваньня таваразвароту магчыма забясьпечыць далейшае шпаркае паляпшэньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і прадуктамі сельскай гаспадаркі, для чаго ў сваю чаргу неабходна ўсямернае пашырэньне сеткі магазынаў, крам і ўсёй гандлёвай сеткі з правядзеньнем неабходнай тэхнічнай яе рэканструкцыі. Толькі на гэтай аснове магчыма падрыхтаваць адмену нармаваньня водпуску тавараў і замяніць сыстэму цэнтралізаванага разьмеркаваньня разгорнутым савецкім гандлем.

Побач з гэтым канфэрэнцыя падкрэсьлівае антыбальшавіцкі характар „левай“ фразы аб пераходзе да „прадуктаабмену“ і аб „адміраньні грошай“ ужо на данай стадыі будаўніцтва сацыялізму. Канфэрэнцыя падкрэсьлівае, з другога боку, поўную несумяшчальнасьць з палітыкай партыі і інтарэсамі рабочай клясы буржуазна-нэпманскіх скажэньняў прынцыпу гаспадарчага разрахунку, якія выяўляюцца ў разбазарваньні агульна-народных дзяржаўных рэсурсаў і, значыць, у зрыве ўстаноўленых гаспадарчых плянаў.

* * *

Новыя посьпехі сацыялізму рабочая кляса забясьпечыць толькі ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, перамагаючы буржуазныя і дробна буржуазныя забабоны сярод працоўных і вядучы настойлівую работу па сацыялістычным іх перавыхаваньні.

Гэта азначае, што і ў далейшым яшчэ немінуча абвастрэньне клясавай барацьбы ў паасобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках сацыялістычнай будоўлі, што разам з тым падкрэсьлівае немінучасьць захаваньня, а ў некаторых выпадках і ўзмацненьня буржуазных уплываў на паасобныя пласты і групы працоўных, немінучасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікненьня чужых пралетарыяту клясавых уплываў у асяродзьдзе рабочых і нават у партыю. З прычыны гэтага перад партыяй стаіць задача ўмацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з апартунізмам, і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе.

Поўная калектывізацыя сельскай гаспадаркі, рост буйных дзяржаўных с.-г. прадпрыемстваў і ўзбраеньне саўгасаў і калгасаў перадавой машыннай тэхнікай, якая на справе ператварае с.-г. працу ў разнавіднасьць індустрыяльнай працы, і значнае ўзмацненьне транспартнай сувязі і тавараабароту паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай — ствараюць умовы для поўнага зьнішчэньня процілегласьці паміж горадам і вёскай.

Шпаркі рост сацыялістычнай гаспадаркі ў пэрыяд другой пяцігодкі ў нацыянальных рэспубліках і абласьцях абумоўлівае зжываньне эканамічнай і культурнай адсталасьці нацыянальнасьцяй, якая засталася ў спадчыну ад царскага каланіяльна-капіталістычнага рэжыму.

СССР у другой пяцігодцы высоўваецца на першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах. Разгорнутая ў першым пяцігодзьдзі работа па ператварэньні СССР з краіны, якая ўвозіць машыны і абсталяваньне, у краіну, якая самастойна выраблае машыны і абсталяваньне, будзе завершана і канчаткова „забясьпечыць за СССР эканамічную самастойнасьць, што ахоўвае СССР ад ператварэньня яго ў прыдатак капіталістычнай сусьветнай гаспадаркі“ (XIV зьезд УсеКП(б).

Усё гэта стварае для СССР магчымасьць ужо ў другім пяцігодзьдзі дагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны па радзе гаспадарчых галін.

Найглыбейшы крызіс у краінах капіталізму — вярнейшы довад надыходзячага крушэньня капіталістычнага сьвету. Посьпехі сацыялізму ў СССР — лепшы довад перавагі сацыялістычнай сыстэмы перад сыстэмай капіталістычнай.

У краінах капіталу — катастрафічнае паданьне вытворчасьці, масавае згортваньне і спыненьне фабрык, заводаў, нячуванае зруйнаваньне вытворчых сіл. У СССР — вялізарны і няўхільны рост вытворчасьці, усё больш разгорнутае будаўніцтва фабрык, гігантскіх заводаў, новых капальняў і электрастанцый, недасяжны для капіталізму тэмп росту вытворчых сіл.

У капіталістычных дзяржавах — самае жорсткае беспрацоўе мільёнаў, надзвычайнае зьбядненьне мільённых мас вёскі. У Савецкім Саюзе — поўная ліквідацыя беспрацоўя і зьнішчэньне галечы, сямігадзінны рабочы дзень на фабрыках і заводах і няўхільны ўздым дабрабыту працоўных мас гораду і вёскі.

Усё гэта яшчэ больш робіць СССР цэнтрам прыцягненьня рабочых усіх краін і прыгнечаных усяго сьвету. Рэвалюцыянізуючае значэньне Савецкага Саюзу расьце. СССР мацнее, як база міжнароднага сацыялізму.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) выказвае цьвёрдую ўпэўненасьць у тым, што асноўныя заданьні другой пяцігодкі будуць ня толькі выкананы, але і перавыкана初ы, што адпаведна будзе забясьпечана сапраўднае канкрэтнае гаспадарчае кіраўніцтва і рашучая барацьба з бюракратызмам з боку ўсіх арганізацый рабочай клясы, што неабходнае для ажыцьцяўленьня задач другой пяцігодкі ўзьняцьцё прадукцыйнасьці працы будзе забясьпечна працоўнымі СССР, што рады ўдзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва будуць расьці з кожным днём.

Канфэрэнцыя непахісна пераконана ў тым, што рабочая кляса і калгасныя масы знойдуцьць у асобе партыйных, камсамольскіх, прафэсыянальных і савецкіх арганізацый бальшавіцкіх арганізатараў і кіраўнікоў пераможнай барацьбы за ажыцьцяўленьне другой пяцігодкі.

Канфэрэнцыя лічыць неабходным неадкладна разгарнуць работу партыйных, савецкіх, гаспадарчых, каапэрацыйных, прафэсыянальных і камсамольскіх арганізацый для хутчэйшай распрацоўкі другога пяцігадовага пляну з унясеньнем яго на зацьвярджэньне чарговага зьезду партыі.

---

**Вышэй тэмпы будаўніцтва сацыялізму! Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі наперад да новых перамог на подступах другой пяцігодкі!**

## Чырвонай арміі ў дзень XIV гадавіны — бальшавіцкі прывет

# БЫЦЬ НАПАГАТОВЕ

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным, рабочая кляса, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР пераможна будуюць сацыялізм. Савецкі саюз пакрываюцца нябачанымі ў сьвеце фабрыкамі і заводамі—гігантамі. Магнітагорскі і Кузьнецкі мэталюргічныя заводы, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя гіганты, Днепрасталь, Ніжагародзкі аўтамабільны завод, Саратаўскі завод камбайнаў, Нова-Маскоўскі аўтамабільны завод і рэд іншых фабрык і заводаў—зьяўляюцца лепшым доказам таго, наколькі мы ўзрасьлі ў галіне сучаснай тэхнікі, лепш за ўсё характарызуюць маштабы нашага будаўніцтва. Сацыялістычная індустрыя СССР дасягнула 60 проц. удзельнай вагі ў агульнай валавой прадукцыі краіны.

На аснове індустрыялізацыі краіны пасьпяхова адбываецца сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі. Звыш 62 проц. бядняцка серадняцкіх гаспадарак СССР аб'яднаны ў калгасы. **„Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі сацыялістычныя формы (калгасы і саўгасы). Савецкі саюз з краіны дробнага і драбнейшага землеробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага прымяненьня машыннай тэхнікі“** (з рэзалюцыі XVII канф. УсеКП (б).

Мы зьвяршылі пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі нашай краіны. Ленінскае пытаньне: „хто каго“—вырашана ў карысьць сацыялізму поўнасьцю і беспаваротна як у горадзе, так іў вёсцы. Гэта асноўная прадпасылка для пасьпяховага ажыцьцяўленьня сусьветна гістарычных задач, вызначаных XVII канфэрэнцыяй УсеКП(б), — пабудовы ў другой пяцігодцы сацыялістычнага грамадзтва, канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул і поўнага зьнішчэньня прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю.

У той час, калі ў нас у Савецкім саюзе грамадны ўздым сацыялістычнага будаўніцтва фабрык і заводаў—гігантаў, **„у краінах капіталу катастрафічнае падзеньне вытворчасьці, масавае згортваньне і астаноўка фабрык і заводаў, нячуванае разбурэньне вытворчых сіл. Усё гэтае яшчэ больш робіць СССР цэнтрам прыцягненьня рабочых усіх краін і прыгнечаных усяго сьвету. Рэвалюцыянізуючае значэньне Савецкага саюзу расьце. СССР мацнее, як база міжнароднага сацыялізму“** (з рэзалюцыі XVII канф. УсеКП(б).

Там, за мяжою Савецкага саюзу, у краінах капітала ідзе нясупынны працэс пашырэньня і абвастрэньня сусьветнага крызісу, які прыняў нябывалыя размеры. Аграрны крызіс, які зьяўляецца сустаўной часткай сусьветнага крызісу прыводзіць да галечы мільёны працоўных мас вёскі. Пралетарыі гарадоў і фабрычна-заводзкіх цэнтраў, а таксама працоўныя сялянскія масы прызначаны на голад і сьмерць. Калі краіна саветаў ня ведае беспрацоўя, дык у капіталістычных краінах налічваецца беспрацоўных звыш 25 мільёнаў.

У той час, як у нас у БССР, як і ўва ўсім Савецкім Саюзе, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі пасьпяхова будуецца сацыялізм, паляпшаецца культурна бытавое становішча працоўных мас,—рабочыя і працоўнае сялянства Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны каленізатарскай палітыкай польскага фашызму даведзены да голаду і жабрацтва. Стогны, енкі і катаваньні палітэзняволеных даносяцца з усіх польскіх турмаў. Дзесяткі тысяч лепшых барацьбітоў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, за справу працоўных мас—кінуты ў турмы.

Працоўнае сялянства Заходняй Беларусі даведзена польскімі акупантамі да роспачы. Праводзімая фашыстоўскім урадам зямельная палітыка імкнецца да таго, каб утрымаць слабеючыя пазыцыі капіталістычных элемэнтаў вёскі (памешчык, кулак, асаднік), каб праз гэта самае знайсьці апору для ўтрыманьня фашыстоўскай дыктатуры ва ўсёй Польшчы, каб гэтым самым узяць у ціскі капіталістычнай эксплёатацыі і грабяжу найшырэйшыя сялянскія масы.

І зусім **„ня дзіва, што гэтыя абставіны рэвалюцыянізуюць абстаноўку, абвастраюць барацьбу клясаў і штурхаюць рабочых на новыя клясавыя бойкі“** (Сталін). З кожным днём расьце рэвалюцыйная актыўнасьць і клясавая самасьвядомасьць пралетарскіх мас. Зрок гэтых прыгнечаных і зьняволеных капіталам мас накіраван на адзіную ў сьвеце краіну, дзе будуецца сацыялізм, на краіну, якая ня мае беспрацоўя, ня ведае эксплёатацыі, бядоты і няшчасьця працоўных мас—на СССР.

Капіталістычны сьвет, шукаючы выхаду з глыбокага эканомічнага крызісу бачыць гэты „выхад“ толькі ў новай крывавай бойцы і ў першую чаргу ў нападзе на СССР. Выйсьці з крызісу шляхам вайны супроць СССР, перакласьці на Савецкі саюз адказнасьць за вынікі крызісу, паслабіць рэвалюцыянізуючы ўплыў краіны пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, затрымаць наступальны ход міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі,—такі разьлік міжнароднай буржуазіі.

Імпэрыялісты рыхтуюцца да вайны і да нападу на Савецкі саюз. Падзеі, якія адбываюцца зараз на Далёкім Усходзе красамоўна гавораць аб гэтым.

Тыя шматлікія канфэрэнцыі па разбраеньні, якія імпэрыялісты склікалі і склікаюць нібы для забесьпячэньня міра—зьяўляюцца ня чым іншым як дымавой засловай, за якой ідзе шалёнае ўзбраеньне капіталістычных дзяржаў. Аб гэтым сьведчаць даныя аб асыгнаваньнях капіталістамі на ваенныя расходы. Афіцыйныя, напрыклад, ваенныя бюджэты Францыі і яе саюзьнікаў на 1932 год складаюць каля 24 мільярдаў франкаў. У 1930—31 годзе ваенныя расходы Польшчы складалі 836,6 мільёнаў злотых, а ў 1931—32 г. даведзены да 1 мільярду злотых. Такі-ж малюнак назіраецца і ва ўсіх капіталістычных дзяржавах.

**Ні чым іншым, як дымавой заслонай можна лічыць склікаемыя імпэрыялістамі канфэрэнцыі па разбраеньні яшчэ і таму, што ўсе прапановы і праекты СССР аб поўным, альбо хаця частковым (сапраўдным) разбраеньні, — буржуазныя дзяржавы цалкам і поўнасьцю адхіляюць.**

Адзіным і сапраўдным сродкам для забесьпячэньня ад вайны — гэта поўнае і ўсеагульнае разбраеньне. Савецкі саюз і зараз абараняе на канфэрэнцыі ў Жэневе (Швайцарыя) свой першапачатковы праект поўнага і ўсеагульнага разбраеньня. як вернага сродку стварэньня бясьпечнасьці ад вайны. Савецкаму саюзу, які пераможна выконвае пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва за 4 гады і знаходзіцца на парозе другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва — не патрабаваліся-б узброеныя сілы, калі б ён меў поўную гарантыю немагчымасьці вайны, таму што СССР непатрэбны чужыя тэрыторыі. Абараняючы са ўсёй сілай сваю прапанову аб поўным і ўсеагульным разбраеньні, Савецкі саюз ня ставіць, аднак, пытаньня, што: толькі поўнае разбраеньне і ніякага больш. Ён згодзен і на частковае сапраўднае скарачэньне ўзбраеньня, якое намечана ў другім нашым праекце частковага разбраеньня.

Вось чаму, рашуча і пасьлядоўна праводзячы палітыку міра, Савецкі саюз ня можа і не павінен паслабляць увагі да ўзмацненьня сваёй абароназдольнасьці. Вось чаму, працуючы па будаўніцтву сацыялізму ў нашай краіне, рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР павінны ўзмацняць баявую моц Чырвонай арміі — вернага вартаўвіка заваёў Кастрычніка.

Толькі клясавыя ворагі, альбо безнадзейныя ёлупы могуць разважаць, што наша барацьба за мір—ёсьць адзнака нашай слабасьці. Наша барацьба за мір—ёсьць адзнака нашай сілы, нашай моцы, упэўненасьці ў перамозе сацыялістычнага будаўніцтва ў мірнай абстаноўцы і нашай упэўненасьці ў ваеннай перамозе, калі хто-небудзь памкнецца на нашы граніцы.

Наша рабоча-сялянская Чырвоная армія, моцна спаяная, загартованая ў бойках грамадзянскай вайны заўсёды гатова да абароны краіны Саветаў. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК узброеныя сілы СССР павышаюць сваю баявую моц і пільна ахоўваюць пераможнае сацыялістычнае будаўніцтва.

Палітычная і баявая стойкасьць рабоча-сялянскай Чырвонай арміі падлягала многім праверкам. У час канфлікта на Кітайска-Ўсходняй чыгунцы, калі імпэрыялісты з дапамогаю кітайскіх бандытаў імкнуліся сілай аружжа „прашчупаць" моц Савецкага саюза,— Чырвоныя байцы даказалі, што наша армія зьяўляецца надзейнай узброенай апорай дзяржавы дыктатуры пролетарыяту.

Уступаючы ў XV гадавіну свайго існаваньня, Чырвоная армія і кожны яе баец, кожны камандзір і палітработнік будуць дабівацца яшчэ большага павышэньня баявой падрыхтоўкі, яшчэ большага авладаньня ваеннай тэхнікай. Ленінскае кіраўніцтва Чырвонай арміяй, згуртаванасьць і бальшавіцкая вытрыманасьць партарганізацыі арміі, аграмаджаныя посьпехі баявой падрыхтоўкі, якія зараз маюцца, і клясавая сьвядомасьць кожнага байца, — верны залог далейшых яе дасягненьняў.

Рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя Савецкага саюзу павінны яшчэ больш пасіліць увагу ўмацаваньня баяздольнасьці Чырвонай арміі, умацаваньню абароназдольнасьці СССР.

У чатырнаццатую гадавіну рабоча-сялянскай Чырвонай арміі мы ставім перад кожным саўгасам і калгасам задачу: шырэй разгарнуць і наладзіць вайсковую работу шляхам узмацненьня работы ячэек Асоавіяхіму.

Саўгасы і калгасы павінны стаць апорнымі пунктамі абароны савецкай краіны. Кожны рабочы саўгасу і МТС, кожны калгасьнік, павінен добра ўладаць зброяй з тым, каб кожную хвіліну быць гатовым выступіць на абарону сацыялістычнай бацькаўшчыны. Справаздачна-перавыбарчую кампанію ячэек Асоавіяхіму, якая зараз адбываецца, трэба ператварыць у масавы агляд пастаноўкі вайсковай работы ў кожным саўгасе, калгасе, узмацненьня шэфства і супрацоўніцтва мас калгасьнікаў з часткамі Чырвонай арміі.

Ленінскі камсамол, які зьяўляецца шэфам Чырвонага флёту і ваенна-паветранага флёту павінен быць застрэльшчыкам ў падрыхтоўцы калгасьнікаў і ўсяго працоўнага сялянства да абароны краіны.

Чырвоная армія — верны вартаўнік пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва. Міжнародны пралетарыят абкружае любоўю і сымпатыямі сваю рабоча-сялянскую Чырвоную армію, якая абараняе яго сацыялістычную бацькаўшчыну ад нападу сусьветнага імпэрыялізму.

Міжнародны пралетарыят рыхтуецца разам з Чырвонай арміяй да абароны Савецкага саюза — сваёй сацыялістычнай бацькаўшчыны.

**„Мы не адзінокі ў сьвеце, —** пісаў у 1918 годзе У. І. Ленін, **— у нас ёсьць сябры, прыхільнікі, вярнейшыя памоцнікі... Будучае, ня глядзячы на ніякія іспыты,—за намі".**

**Няхай жыве верны вартаўнік савецкіх граніц— Чырвоная армія!**

**Няхай жыве кіраўнік і арганізатар Чырвонай арміі—УсеКП(б)!**

---

**„Узброеныя сілы нашага саюзу зьяўляюцца ў арганізацыйнай, баявой і палітычнай адносіне зусім надзейнай узброенай апорай дыктатуры пралетарыяту"**

**ВАРАШЫЛАЎ**

Т. КЛЯШТОРНЫ.

# Умей не на вецер, а трапна страляць

З вялікае мапы
Вялікіх работ
Мы бачым
Другую работу:
Агорнуты хмарамі
Захад і ўсход,
І порахам пахнуць
Палітыкаў ноты.
Варушацца цені
Дзянікінскіх кляч—
Дзе доляры пахнуць
Крывёю і трупам...
І чутна,
Як каркае чорны крумкач,
Пачуўшы
Ўзброены тупат...

. . . . . . . . . . .

Ня каркай крывавы,
На згубу сваю
Ты каркаеш пэўна!
Даволі!..
Усё гэта бачыць
Савецкі саюз
З рыштункаў
Вялікай будоўлі.
Даўно гэта карканьне
Ведаем мы,—
„Лагодныя“
Вашы акрасы,—
Таму й загадала
Героям сваім
Магутная,
Творчая кляса:
— Ударнік са зброяй,
На варце стаяць
Рэспубліка
Нам даручыла,—
Умей не на вецер,
А трапна страляць,—
Як кажа
Нарком Варашылаў.
У кожную хвілю
Ты мусіш умець
Прадбачыць
Наперад умовы...
І
Ведае кляса,
Што кожны баец
Адкажа ёй
Заўжды сьвядома:
— Ні ў золкіх завеях,
Ні ў бурах ліхіх
Ня кінем мы
Нашага сьцягу.
Дык
Слухай магутная кляса
Сваіх
Байцоў
Баявую прысягу:
З нас кожны гатоў
У вялікі паход,
І кожны
Гартованы клясавым гартам...
Учора мы—
Армія слаўных работ,
Сягоньня—
Надзейная варта.
Мы дзеці варштатаў,
Калгасных палёў—
Героі
Вялікай будоўлі...
Ніякая сіла
Чырвоных байцоў
Ня зможа
Асіліць ніколі.
Калі нам адрэжа
Шляхі супарат,
Ня хопіць для зброі
Зараджанай сталі,
Дык
Сэрцам зарадзім мы
Жэрлы гармат,
І,
Нэрвамі
Порах падпалім.
Каб лютаму ворагу
Ў рукі ня здаць
Магутныя
Нашы вышыні,—
З прастрэленем сэрцам
Ня кінем страляць
Да самай
Апошняй хвіліны!
Вялікія сілы
Геройства стралка
Зьяднялі
З Чырвонаю зброяй...
Ня скосіць героіку
Сьмерці рука—
Герояў
Заменяць героі.
Хай кружыцца,
Каркае чорны крумкач,
Хай порахам пахнуць
Палітыкаў ноты,—
Мы будзем аддана
На варце стаяць
Сусьветных
Вышынь пяцігодкі.

Менск 10-XII 31 г.

# БРЫГАДА—ВАЖНЕЙШАЕ ЗЬВЯНО КАЛГАСНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

## Аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым ўмацаваньні калгасаў

**(Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г.)**

ЦК партыі ўказвае ўсім партыйным арганізацыям на тое, што задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца ў сучасны момант, перш за ўсё, задачай разьвіцьця і замацаваньня арцельнай формы калгасаў. Пры гэтым ЦК выходзіць з таго, што спробы штучнага паскарэньня пераходу ад арцельнай формы калгасаў да камуны на сучаснай стадыі разьвіцьця калгасаў зьяўляюцца сур'ёзнай небясьпекай. Супроць гэтай небясьпекі пераскакваньня цераз форму сельскагаспадарчай арцелі, якая яшчэ не разгорнута дастаткова і не замацавана, ЦК перасьцерагае ўсе партыйныя арганізацыі.

У сувязі з падрыхтоўкай да веснавой пасеўнай кампаніі і барацьбой за падвышэньне ўраджайнасьці, ЦК асобна падкрэсьлівае наступныя чарговыя задачы ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў у іх арцельнай форме, зьяўляючайся на данай стадыі пануючай:

1. Важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць **брыгада**. У адпаведнасьці з вопытам лепшых сельскагаспадарчых арцеляй, ЦК лічыць мэтазгодным арганізацыю ў калгасах брыгад з сталым складам калгасьнікаў з тым, каб, як правіла, такія брыгады выкаралі ўсе асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго году на пэўных вучастках. Гэтым брыгадам калгас вылучае на час іх работы неабходныя машыны, інвэнтар і рабочую жывёлу, за становішча якіх цалкам адказвае брыгада. Ацэнка працадня калгасьнікаў павінна павышацца, або паніжацца ў залежнасьці ад пасьпяховасьці работы брыгады.

Стварэньне такіх брыгад не павінна, аднак, выключаць магчымасьці замацаваньня за брыгадамі вучасткаў (у залежнасьці ад мясцовых умоў, разьмераў калгасу, яго арганізаванасьці) не на ўвесь сельскагаспадарчы сэзон, а толькі на асобны пэрыяд сельскагаспадарчых работ (ворыва, уборка).

2. Падбор **брыгадзіраў**, зьнішчэньне цякучасьці іх складу і сапраўдная дамога брыгадзірам у справе павышэньня іх гаспадарчай і палітычнай кваліфікацыі—павінны стаць важнейшай задачай партыйных арганізацый.

Шырокае распаўсюджваньне павінна атрымаць, ужо ўжываемая ў мінулым годзе ў лепшых калгасах, практыка аплаты працы брыгадзіраў у залежнасьці ад канечных рэзультатаў работы брыгады.

Павышэньне адказнасьці брыгадзіра, перадача яму раду функцый у справе арганізацыі працы ў калгасах павінны ісьці побач з скарачэньнем агульна-адміністрацыйных выдаткаў у калгасе, якія ў радзе выпадкаў недапушчальна разбухлі.

3. Ажыцьцяўленьне на справе рашэньняў VI зьезду саветаў аб унядрэньні зьдзельшчыны, палепшаньні ўліку і аб ацэнцы працы кожнага калгасьніка ў працаднёх, у залежнасьці ад колькасьці і якасьці выкаранай ім работы, працягвае аставацца важнейшай задачай.

У той-жа час ЦК перасьцерагае ад празьмернага ўскладненьня форм зьдзельшчыны, увядзеньня прагрэсыўнай зьдзельшчыны, захапленьня індывідуальнымі формамі зьдзельшчыны там, дзе гэта не выклікаецца ўмовамі вытворчасьці (напрыклад, на ворыве, малацьбе) супроць спробаў перавесьці аплату працы калгасьнікаў на грашовую зарплату, супроць падмены работы праўленьняў калгасаў голым адміністраваньнем з боку партыйных і савецкіх арганізацый, супроць падвышэньня прынятых у статуце сельскагаспадарчай арцелі адлічэньняў у розныя фонды.

4. Шырокае распаўсюджваньне павінна атрымаць праверaная на вопыце лепшых жывёлагадоўчых калгасных фэрм практыка абслугоўваньня працуючымі ў брыгадзе калгасьнікамі пэўнай групы жывёлы з тым, каб жывёлагадоўчая брыгада і ўваходзячыя ў іх калгасьнікі аплачваліся-б у залежнасьці ад рэзультатаў іх работы (колькасьць выдаенага малака, прырост вагі маладняка, разьмер прыплоду і г. д.).

5. ЦК лічыць важнейшай палітычнай задачай партыйных і калгасных арганізацый работу па вылучэньні і выхаваньні калгаснага актыву з ударнікаў-калгасьнікаў, удзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва, брыгадзіраў і г. д. На калгасны актыў павінны абапірацца мясцовыя арганізацыі пры ажыцьцяўленьні важнейшых гаспадарчых мерапрыемстваў—барацьбы за ўраджай, за выкананьне пляну збожжазагатовак і г. д., а таксама ў справе сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў.

6. Ва ўсёй рабоце па арганізацыйна-гаспадарчым ўмацаваньні калгасаў, стварэньні калгаснага актыву і падвышэньня ўраджайнасьці—асаблівa вялікая роля і адказнасьць **машына трактарных станцый**. У сувязі з гэтым ЦК прапануе партыйным арганізацыям пасіліць штодзенную дапамогу машына-трактарным станцыям, асабліва ў справе замацаваньня кадраў і ўзмацніць кіраўніцтва ўсёй гаспадарчай работай МТС.

**ЦК УсеКП(б).**

## Толькі сталыя брыгады могуць даць найбольшую вытворчасьць працы

У пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб правядзеньні веснавой сельскагаспадарчай кампаніі на 1932 год адной з цэнтральных задач гэтай кампаніі паказана арганізацыя працы ў калгасах. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы магчыма толькі на аснове ўвядзеньня ў калгасах сапраўднай зьдзельшчыны, пастаноўкі справы ўліку, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, барацьба за падвышэньне якасных паказчыкаў, і ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

Асноўнай вытворчай адзінкай калгасу, якая працуе па плянавым заданьні калгасу—зьяўляецца брыгада. Калгасная практыка выявіла два тыпы брыгад у калгасах: спэцыялізаваныя і камбінаваныя (зьмешаныя) брыгады. Спэцыялізаваныя брыгады арганізуюцца для выкананьня толькі аднаго віду работ (напрыклад, даеньне кароў, прапалка гароду, ворыва

на зяб і г. д.). Самы распаўсюджаны тып брыгад— камбінавыя брыгады, якія выконваюць усе работы на вучастках (ворыва, баранаваньне, сяўба, або касьба і возка снапоў і г. д.). Былі выпадкі арганізацыі брыгад па тэрытарыяльнаму прызнаку, гэта значыць — тэрытарыяльных брыгад — дворак. Усе брыгады ў калгасах павінны быць пабудаваны па вытворчаму прынцыпу па спэцыяльнаму падбору і вучоту калгасьнікаў для гэтых брыгад, па іх кваліфікацыі ў адпаведнасьці з характарам даручанай гэтай брыгадзе вытворчай работы.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 4 лютага гэтага году аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, якая зьмешчана ў гэтым нумары часопісі, падкрэсьліў, што „**важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада. У адпаведнасьці з вопытам лепшых сельскагаспадарчых арцеляй, ЦК лічыць мэтазгодным арганізацыю ў калгасах брыгад з сталым складам калгасьнікаў з тым, каб, як правіла, такія брыгады вытваралі ўсе асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго году на пэўных вучастках. Гэтым брыгадам калгас вылучае на час іх работы неабходныя машыны, інвэнтар і рабочую жывёлу, за становішча якіх цалкам адказвае брыгада. Адзнка працадня калгасьнікаў павінна павышацца або паніжацца ў залежнасьці ад пасьпяховасьці работы брыгады**“.

Таму, умацаваць брыгаду, як галоўнае зьвяно арганізацыі працы ў калгасах—зьяўляецца асноўнай задачай. Толькі пры арганізацыі сталых вытворчых брыгад можна дасягнуць найбольшай вытворчасьці працы, найбольшай чоткасьці ў расстаноўцы сіл і найлепшагага выкарыстаньня сродкаў вытворчасьці.

Колькасьць калгасьнікаў, цягавай сілы і інвэнтару ў вытворчай брыгадзе ў часе надыходзячай веснавой сяўбы, павінна быць устаноўлена з разьлікам найбольшага павышэньня вытворчасьці працы, правільнага выкарыстаньня сельскагаспадарчых машын і цягавай сілы пры правядзеньні работ з тым, каб дабіцца максымальнага скарачэньня тэрмінаў сяўбы. За кожнай паляводчай брыгадай, у адпаведнасьці з яе складам, замацоўваецца на ўвесь пэрыяд веснавой сяўбы, а там, дзе гэта магчыма і патрэбна на ўвесь год, зямельны вучастак, на якім гэта брыгада праводзіць усе работы. Замацаваньне за брыгадай пэўных вытворчых вучасткаў дасьць магчымасьць брыгадзе разгарнуць сапраўдную барацьбу за ўраджай, за лепшае выкананьне ўсіх сельскагаспадарчых работ на гэтых вучастках. Замацаваньне за брыгадай пэўных вучасткаў зямлі, коняй і інвэнтару—важнейшая ўмова ліквідацыі абязьлічкі ў калгасах.

У мінулую веснавую пасеўную кампанію з 5585 калгасаў толькі ў 1.113 калгасах былі замацаваны коні за брыгадамі, 466 калгасаў замацавалі коняй за групамі калгасьнікаў і ў 2.366 калгасах замацавалі за асобнымі калгасьнікамі. А ў астатніх (1.650) калгасах зусім не замацоўвалі коняй,—панавала абязьлічка. Яшчэ горш абстаяла справа з ліквідацыяй абязьлічкі на малочна-таварных фэрмах. 2.308 калгасаў, альбо 41,3 проц. зусім не замацавалі кароў за даяркамі.

Для поўнай ліквідацыі абязьлічкі трэба прымацаваць рабочую жывёлу да адпаведных калгасьнікаў, якія павінны стала працаваць на гэтай жывёле ўвесь пэрыяд сельскагаспадарчых работ, несьці поўную адказнасьць за становішча і нагляд (карміць, паіць, чысьціць і г. д.). Ня трэба дапускаць перакідкі брыгад, нявыканаўшых свайго вытворчага заданьня з аднаго вучастку на другі, а таксама перакідку асобных калгасьнікаў і цягавай сілы з брыгады ў брыгаду.

Цякучасьць брыгад і частая перакідка брыгадзіра з адной брыгады ў другую—аслабляюць брыгаду як вытворчую адзінку. Так, напрыклад, у калгасе „Сьвет“ (Бабруйскага раёну) з 10 брыгад, якія існавалі ў 1931 годзе большасьць іх былі фармальнымі брыгадамі, адарванымі ад вытворчых працэсаў, арганізоўваліся гэтыя брыгады ўсяго толькі на 1-2 дні для выкананьня тэй ці іншай работы. Усё гэтае адмоўна адбівалася на якасьці працы; цякучасьць такіх брыгад была вялікая. Напрыклад, брыгада, тав. Хамяка, у якой налічвалася 20 чалавек, працавала ў сярэднім 4-5 чалавек. У выніку гэтага праўленьне калгасу „Сьвет“ увяло так званы „рэзэрвны штат калгасьнікаў“, якія павінны былі замяняць адстаючых. Брыгадзіры таксама часта зьмяняліся. Адзін з брыгадзіраў за кароткі час пабываў у трох брыгадах (па будаўніцтву, па вывазцы сена і інш.).

Надзвычай важнае значэньне набывае падбор брыгадзіраў. Брыгадзіру зараз перадаецца рад новых адказьнейшых абавязкаў у арганізацыі калгаснай вытворчасьці. Ён ня толькі вядзе вучот колькасьці і якасьці выкананай работы, але і пэрсанальна адказвае перад праўленьнем калгасу за невыкананьне агратэхнічных заданьняў, кіруе вытворчымі і нарадамі брыгады. Таму, „**падбор брыгадзіраў, зьнішчэньне цякучасьці іх складу і сапраўдная дапамога брыгадзірам у справе павышэньня іх гаспадарчай і палітычнай кваліфікацыі—павінны стаць важнейшай задачай партыйных арганізацый**“. (З пастановы ЦК УсеКП(б).

Неабходна ліквідаваць ураўніладку ў аплаце працы брыгадзіраў: „**Шырокае распаўсюджваньне павінна атрымаць ужо ўжываемая ў мінулым годзе ў лепшых калгасах, практыка аплаты працы брыгадзіраў у залежнасьці ад канечных рэзультаў работы брыгады**“. (З пастановы ЦК УсеКП(б).

Практыка мінулага году пацьвердзіла, што найбольш мэтазгоднымі і прыстасаванымі да калгаснай вытворчасьці аказаліся брыгады з невялікай колькасьцю людзей (у сярэднім 20—25 чалавек), у залежнасьці ад культуры, галін гаспадаркі, характару работы, адпаведнай цягавай сілы і складам машын. У надыходзячую веснавую сяўбу трэба рашуча змагацца за ўшчыльненьне рабочага часу, за тое, каб максымальна скараціць лішнія пераезды, перакідкі інвэнтару, людзей і рабочай жывёлы. Трэба максымальна скараціць час падрыхтоўкі да выезду ў поле і сканчэньня работы, упарадачыць час адпачынку і кармленьня рабочай жывёлы. У аснову ўсёй работы калгасу павінен быць пакладзен дасканала распрацаваны і даведзены да кожнай брыгады і асобнага калгасьніка вытворчы плян.

На ўвесь пэрыяд веснавой сяўбы і міжрадковай апрацоўкі ў кожнай паляводчай брыгадзе складаецца плян-нарад, у якім прадугледжваецца разьмер заданьняў брыгадзе, падрабязныя якасныя запатрабаваньні па апрацоўцы і пасеву, склад брыгады, тэрмін выкананьня работы, парадак зьдзельнага выкананьня гэтай работы і ацэнка яе ў працаднёх. У пляне—нарадзе таксама павінен быць прадугледжан парадак прэміяваньня за добрую работу, разьмер узысканьня за дрэнную работу і парадак пераключэньня гэтых брыгад на пасеў позьніх культур і на міжрадковую апрацоўку. Па жывёлагадоўлі, пчалярству, садоўніцтву і другім галінам гаспадаркі—арганізоўваюцца спэцыяльныя брыгады. **С. К.**

# ПЫТАНЬНІ АРГАНІЗАЦЫІ ВУЧОБЫ ЗАВОЧНІКА *)

**(Тэма першая)**

Для пасьпяховай вучобы завочніка патрабуецца: падручнікі і вучэбныя прылады, кіраўніцтва вучобай з боку вопытных пэдагогаў, сувязь з вытворчасьцю, наяўнасьць часу і месца для вучобы, сыстэматычнасьць, арганізаванасьць працы завочніка і дысцыпліна.

Мы застановімся толькі на апошніх двух пунктах, якія пры дапамозе інстытуту і пры непасрэдным удзеле самых завочнікаў — будуць пасьпяхова вырашаны.

Навучальныя пляны па завочнаму навучаньню разьлічаны на пэўную колькасьць гадзін. Так, напрыклад, па сельскагаспадарчым інстытутам (сьвінагадоўлі, буйнай рагатай жывёлы, прадзільных культур і інш.) патрэбна ў сярэднім штагод 720 гадзін на тэорытычную прапрацоўку курсу і 170 – 190 гадзін на лябараторна-сэмінарскую прапрацоўку курсу. На вытворчую практыку час ня ўлічваецца, таму, што завочнік увесь час знаходзіцца на вытворчасьці. Лябараторна-сэмінарскія заняткі будуць праводзіцца ў навучальнай установе, куды студэнты завочнікі штогодна выклікаюцца на 1 месяц (24 працадні па 8 гадзін штодзенна—192 гадзіны). 720 гадзін, патрэбных на тэорытычную прапрацоўку курсу, завочнік можа і павінен знайсьці працуючы на вытворчасьці. Гэтая колькасьць гадзін будзе выканана на працягу 10 месяцаў, лічачы па 24 працадні ў месяц, па 3 гадзіны ў дзень (3×24×10=720). (Адзін месяц застаецца на адпачынак і інш.). Для завочнікаў па курсу брыгадзіраў колькасьць гадзін у дзень памяншаецца да $1\frac{1}{2}$—2.

Вопыт завочнага навучаньня (а ў нас маюцца завочныя навучальныя ўстановы, якія налічваюць дзесяткі тысяч завочнікаў) паказаў, што пры плянаваньні часу гэтую колькасьць гадзін зусім ня цяжка знайсьці.

*) Два ўступных артыкулы зьмешчаны ў 2 і 3 нумарох нашай часопісі.

У некаторых таварышоў шмат часу адымае грамадзкая праца. Гэтае пытаньне трэба ўрэгуляваць. Грамадзкая праца не павінна адымаць больш таго часу, які можа здаць завочнік без перашкоды для навучаньня, тым больш што само завочнае навучаньне павінна лічыцца, як грамадзкая праца. У пастанове калегіі НКЗБ ад 30-VIII—31 г. сказана, што завочнікі і кансультанты павінны быць максымальна вызвалены ад грамадзкай нагрузкі.

Увязваючы з працай на вытворчасьці і грамадзкай працай, — для вучобы неабходна вызначыць пэўныя дні і гадзіны і па мажлівасьці, прытрымлівацца гэтага. Калі завочнік заўважыць, што вызначаныя дні і гадзіны для яго не падыходзяць — ён можа зрабіць перастаноўку, вызначыўшы той час, які больш падыходзіць.

На першым агульным сходзе брыгады неабходна вызначыць дні і гадзіны для заняткаў у брыгадзе і на кансультацыйным пункце. Далей кожны завочнік павінен зрабіць каляндарнае расьпісаньне заняткаў, гэта значыць вызначыць калі, што і як будзе прапрацоўвацца. Расьпісаньне заняткаў можна зрабіць па наступнай форме:

| Месяц і чысло | Што патрэбна прапрацаваць | Што прапрацавана | Затрачана гадзін | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 7-III | Кармавыя нормы для буйнай рагатай жывёлы, 2 заданьне | 1—12 старонкі | 2 г. | |
| 8-III | " | 13—28 " | $2\frac{1}{2}$ | |
| 10-III | " у брыгадзе | Абгаворана з кансультантам | 2 | |
| | | Атрымана 1 заданьне не па рахункаводзтву | | |
| 11-III | Адказы па кантр. запытаньні па 1—2 заданьні | Выканана | 2 | 12-III адаслана ў сэктар. |

Каляндарнага пляну прапрацоўкі заданьняў трэба абавязкова прытрымлівацца як гэта робіцца ў стацыянарных навучальных установах, інакш завочнік не пасьпее ў вызначаны тэрмін выканаць заданьне. А ня выканаўшы аднаго другога заданьня,—завочнік пачынае думаць, што ён ня здольны, што яму вучоба не пад сілу і г. д., і ў выніку кідае вучобу.

Такім чынам, сыстэматычнасьць заняткаў, дысцыпліна—павінна стаяць на першым месцы ў завочным навучаньні.

Другая задача завочніка — гэта рацыянальнае скарыстаньне вызначанага для заняткаў часу. Неабходна ўжыць захады, каб у час заняткаў не перашкаджалі. Нельга адначасова і чытаць і слухаць чужую гутарку, альбо адказваць на запытаньні.

Калі на кватэры нельга займацца (цесна, шумна і г. д.) трэба пайсьці ў чытальню, у клюб. У пакоі для заняткаў павінна быць



Завочнікі прапрацоўваюць заданьне.

сьвежае паветра (той хто будзе вывучаць фізіолёгію жывёлы, у прыватнасьці чалавека, той упэўніцца наколькі гэта патрэбна) і адпаведная тэмпэратура, у сярэднім—14—15 градусаў.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на асьвятленьне. Пры слабым асьвятленьні ня толькі цяжка чытаць і пісаць, але можна зусім сапсаваць вочы. Шкодны таксама і надта яркі сьвет, асабліва калі ён перад вачыма. Сонечны сьвет, падаючы на кнігу, калі кніга блішчыць, шкодны для вачэй. Лямпа павінна пакрывацца абажурам, лепш усяго зялёным і быць з левага боку, альбо зьверху.

Стол і стул (са сьпінкай) павінны быць такімі, каб выгадна было працаваць. На стале павінны быць дастаткова месца ды кніг і розных прыладаў, якія патрэбны ў час заняткаў. Аднак на стале не павінна быць нічога лішняга. Кнігі і іншыя прылады не павінны быць раскіданы, дзе папала і як папала, а ляжаць у пэўным месцы і парадку, каб ня шукаць кожны раз патрэбную кніжку, альбо прыладу.

Завочнік заўсёды павінен мець такія прылады, як паперу, сшыткі, канвэрты, паштовыя маркі, сантымэтравую лінейку, карандашы і г. д. Адсутнасьць чаго-небудзь з патрэбных прылад будзе затрымліваць працу. Трэба напісаць у завочны сэктар пісьмо, а канвэрта, альбо маркі няма; адклаў да заўтра, а заўтра забыўся. Гэтак і цягнецца, а ў выніку — несваячасовая прысылка пісьмовай працы, адказу на запытаньне і г. д. Таксама патрэбна мець розныя справаздачнікі, слоўнікі (замежных слоў), арфаграфічныя, геаграфічныя і інш.; карты, гатавальню і г. д.

Кожнаму завочніку паасобку набываць усе гэтыя прылады, а асабліва дарагія, няма сэнсу. Усё гэта павінна быць на кансультацыйным пункце, аб чым і павінна паклапаціцца адміністрацыя гаспадаркі сумесна з завочнікамі і мясцовымі арганізацыямі.

У час заняткаў неабходна прытрымлівацца некаторых правіл устаноўленых досьледам. Нельга, напрыклад, займацца падрад 2—3 гадзіны без адпачынку. Нельга таксама і адпачынак робіць часта, праз кожныя 30 хвілін. У першым выпадку праца будзе непрадукцыйнай з-за стомленнасьці, у другім—завочнік, пасьля адпачынку, патраціць кожны раз некаторы час на тое, каб увайсьці ў курс таго, аб чым чытаў і ў выніку будзе прападаць шмат часу. Лепш усяго 50 хвілін вучобы і 10 хвілін адпачынку. Пры занятках больш 3-х гадзін падрад—трэба рабіць больш доўгі адпачынак.

Усё гэта як папярэднія заўвагі. Завочны сэктар на працягу ўсяго курсу вучобы будзе даваць паказаньні аб арганізацыі працы завочніка, як праз пасылку сэктарам спэцыяльных карэспандэнцый, так і праз часопіс „Шляхі Калектывізацыі“. Акрамя таго самі завочнікі ў працэсе вучобы знойдуць адпавядаючыя найбольш пасьпяховаму навучаньню—формы і мэтады. Газэты, часопіс „Шляхі Калектывізацыі“, канфэрэнцыі, зьезды—сродкі для абмену вопытам паміж паасобнымі завочнікамі і паміж завочнікамі і завочным сэктарам.

Урэшце трэба адзначыць, што шмат залежыць і ад выбару спэцыяльнасьці. Калі абраная спэцыяльнасьць ня цікавіць — посьпеху будзе мала. Вось чаму, хто падае заяву аб залічэньні завочнікам, павінен спачатку падумаць наконт выбару спэцыяльнасьці, параіцца з ведаючымі людзьмі, азнаёміцца з асноўнымі спэцыяльнасьцямі. Нельга тут дапускаць выпадковасьці. Нельга разважаць так, што калі мой таварыш падаў заяву ў інстытут сьвінагадоўлі — падаю і я. Кожны павінен абраць тую спэцыяльнасьць, якая яго найбольш цікавіць. Толькі пры гэтай умове будзе найбольшая пасьпяховасьць у вучобе і ў практычнай працы па вытворчасьці. Выбар спэцыяльнасьці (прафэсіі)—адказны момант.

Посьпех таксама залежыць і ад таго, наколькі завочнік уяўляе сабе месца і значэньне тэй дысцыпліны, якую вывучае. Таму нельга разглядаць ізалявана, паасобку, тую ці іншую дысцыпліну, а абавязкова ў сувязі з іншымі, у сувязі з запатрабаваньнямі вытворчасьці, грамадзка - палітычным жыцьцём.

Найбольшы посьпех будзе тады, калі завочнік будзе ня проста вывучаць тую, ці іншую дысцыпліну, ня проста чытаць кніжку, а шукаць у кніжцы адказу на канкрэтныя пытаньні пастаўленыя жыцьцём.

**В. Крэйдзіч.**

# Адказы на запытаньні завочнікаў

Пачынаючы з гэтага нумару, на старонках часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ будуць давацца адказы і тлумачэньні на запытаньні па завочнай падрыхтоўцы сельскагаспадарчых кадраў. Запытаньні можна пасылаць, як у сэктар падрыхтоўкі кадраў, так і ў рэдакцыю часопісі „Шляхі Калектывізацыі“.

На паступіўшыя запытаньні адказваем без зазначаньня прозьвішча таго, хто запытаў, таму, што аднолькавыя запытаньні маюцца ад некалькіх таварышоў.

**Запытаньне:** Хто можа завочна вучыцца і якая патрэбна папярэдняя адукцыя?

**Адказ:** Вучыцца могуць усе, за выключэньнем пазбаўленых выбарчых правоў. Узрост ад 16 год і вышэй. Папярэдняя падрыхтоўка ў аб'ёме 9-годкі пры паступленьні ў ВНУ; 7-годкі пры паступленьні ў тэхнікумы і пачатковай школы пры паступленьні на курсы майстраў-брыгадзіраў. Неабавязкова канчаць 7-годку альбо 9-годку—важна каб веды адпавядалі вызначанаму аб'ёму. Рабочыя і калгаснікі, маючыя значны вытворчы стаж, прымаюцца з меншай папярэдняй падрыхтоўкай.

**Запытаньне:** Ці ня позна падаваць заяву аб залічэньні ў Завочны Інстытут і якія патрэбна прыкладаць дакуманты?

**Адказ:** Прыём праводзіцца на працягу ўсяго году. Ніякіх іншых дакумантаў акрамя засьведчанай анкеты падаваць не патрэбна.

**Запытаньне:** Дзе ўзяць анкету?

**Адказ:** Форма анкеты зьмешчана ў праспэкце, блянк анкеты можна атрымаць у Рэспубл. інстытуце, завочных сэктарох і ў гаспадарчых арганізацыях на мясцох.

**Запытаньне:** Колькі год навучаньня?

**Адказ:** Тэрмін навучаньня такі ж, як і ў адпаведных стацыянарных навучальных установах: па с-г. ВНУ—3 гады, па с-г. тэхнікумах—$2^1/_2$ гады і ў аб'ёме майстраў-брыгадзіраў 9 месяцаў. Па індустрыяльных ВНУ, у прыватнасьці, у інстытуце мэханізацыі і электрафікацыі — 4 гады, па індустрыяльных тэхнікумах—3 гады і брыгадзіраў-трактарыстаў—$1^1/_2$ гады.

# Роля ўгнаеньняў у барацьбе за ўраджай

Галоўнейшымі агратэхнічнымі мерапрыемствамі ў гэтую веснавую пасеўную кампанію, якія павінны садзейнічаць вырашэньню задачы падвышэньня ўраджайнасьці — зьяўляюцца: правільны севазварот, культурнае ворыва, барацьба з пустазельлем, пасеў чыстагатунковым насеньнем і інтэнсыўнае ўгнаеньне, зялёнае ўгнаеньне лубінам, угнаеньне торфам, кампостам, попелам, вапнаваньнем і г. д.

З глебы расьліны высасваюць сваімі карэньнямі— у выглядзе слабай вадзяной рошчыны—розныя солі, у склад якіх уваходзяць: азот, фосфар, калі (поташ), кальцыя (вапна), магні, сера і жалеза. Усе гэтыя матэрыі, акрамя азоцістых, пасьля спальваньня расьліны — застаюцца ў яе попелу. Таму — гэтыя матэрыі называюць попелавым харчам расьлін. Калі глеба будзе надта беднай хаця аднэй з гэтых сямі матэрый, дык ад яе недахопу рост расьліны будзе затрымлівацца, хаця б усіх астатніх матэрый мелася ў глебе лішняя колькасьць.

Ва ўсякай глебе маецца досыць кальцыя, магнія, серы і жалеза. Але ў глебах вельмі часта не хапае азоту, фосфару і калія,

Гной падвышае ўраджайнасьць глебы таму, што ён паходзіць з расьлін і ў ім ёсьць усё тое, што расьліны бяруць з зямлі. Угнойваць глебу могуць таксама розныя рэшткі расьлін, усё тое, што атрымоўваецца з расьлін, напрыклад: салетра, косьці жывёлы, попел і г. д.

У гнаі ёсьць усё тое, што патрэбна для харчаваньня расьлін, усе тыя матэрыі, з якіх складаецца харч для расьлін. Таму гной зьяўляецца поўным угнаеньнем. Ёсьць і такія ўгнаеньні, у складзе якіх знаходзяцца толькі некаторыя часткі расьліннага харчу, якія толькі дапамагаюць уплыву гною, або паляпшаюць яго якасьць. Гэта—няпоўныя ўгнаеньні, напрыклад, — попел, у якім няма салетры, або косьці, у якіх няма поташу. Ёсьць яшчэ і такія ўгнаеньні, якія самі па сабе не павялічваюць колькасьці харчу для расьлін (торф, вапна і інш.). Такія ўгнаеньні вывозяць у поле зусім не для таго, каб разам з імі пакласьці ў глебу харч для расьлін. Яны дапамагаюць хуткаму зьмяненьню некаштоўнага пяску ў карысны іл, у выніку чаго ў зямлі робіцца значна больш харчу для расьлін. Такія ўгнаеньні, як торф і вапна называюцца непрамымі ўгнаеньнямі таму, што яны не даюць самі для расьлін харчу, а спрыяюць яго стварэньню ў глебе.

Зараз на заводах гатуюць штучныя, так званыя мінэральныя ўгнаеньні — трох радоў: фасфатныя ўгнаеньні (супэрфасфат, тамасшлак, касьцяная мука і фасфарытная мука); азоцістыя ўгнаеньні (сульфат амонія, салетра, цыянамід і інш.); калійныя ўгнаеньні (сільвініт, 30 і 40-процантная калійная соль, хлорысты калі і сернаквасны калі). Аднародныя ўгнаеньні можна замяняць адны другімі, а разнародныя нельга. Так, напрыклад, калі замест касьцяной мукі, або тамашлаку — можна ўзяць супэрфасфат, дык фасфатнае ўгнаеньне зусім нельга заманіць азоцістым або калійным угнаеньнем.

У гэтым годзе да пачатку веснавой сяўбы ў БССР павінна быць завезена ня менш 100 тысяч тон мінэральных угнаеньняў, з іх — супэрфасфату—25 тыс. тон, фасфарытнай мукі—50 тыс. тон і калійных угнаеньняў—25 тысяч тон, (для калгасаў — супэрфасфату—10.800 тон, фасфарытнай мукі—23.612 тон і калійнай солі 11.601 тоны). Самымі неабходнымі амаль для ўсёй нашай глебы зьяўляюцца фосфарнаквасныя ўгнаеньні. Збожжавыя культуры ў большасьці выпадкаў можна з карысьцю ўгнойваць аднымі фосфарна-кваснымі ўгнаеньнямі. Пры ўгнойваньні бульбы, лёну, гародніны і інш.— больш карысна ўносіць ня толькі фосфарна-квасныя, але і азоцістыя, а таксама—калійныя ўгнаеньні.

Сярод фосфарна-квасных угнаеньняў найбольш моцна і хутка дзейнічае супэрфасфат (у яго складзе— 14 проц. фосфарнай кіслаты). Ён прыгодны для ўсякіх глеб. Пад яравымі культурамі супэрфасфат дзейнічае некалькі слабей, чым пад азімымі. Пры ўгнойваньні яравых супэрфасфатам — добра дабаўляць да яго на кожны гектар 100—150 кілё сульфат-амонія. На кожны кілё сульфат-амонія пры гэтым атрымоўваецца прыбаўка зерня ад 2 да 3 кілё. Пад бульбу трэба ўносіць на 1 *га*—270—320 кілё супэрфасфату, а яшчэ лепш—з дабаўкай 12—18 тон гною (на 1 *га*). Супэрфасфат дае прыбаўку ўраджаю бульбы ад 7,5 да 15 цэнтнераў на 1 *га*. Пры поўным угнаеньні пад бульбу (на 1 *га*—270—320 кілё супэрфасфату, 180 кілё—сульфат-амонія і 150—180 кілё 30-процантнай калійнай солі)—прыбаўка ўраджаю на 1 *га* павялічваецца да 22.5—60 цэнтнераў і больш. Уносіць мінэральныя ўгнаеньні ў баразну на голую бульбу нельга.

Калі супэрфасфатам угноена глеба, на якой сеецца канюшына, дык, акрамя прыбаўкі ўраджаю збожжа, канюшына таксама павялічвае ўраджай у першы ўкосны год на 10—15 цэнт. на 1 *га*, а на другі год—7,5—12 цэнт. сена. Пры гэтым добра да супэрфасфату дабаўляць калійнай солі. На 1 *га* пад канюшыну трэба ўносіць 320—400 кілё супэрфасфату і 150—180 кілё 30-процантнай калійнай солі. Пры пасеве лёну на мяккай зямлі (пасьля збожжа або бульбы) пад лён трэба ўносіць поўнае ўгнаеньне (на 1 *га*—90 кілё сульфат-амонія, 225—270 кілё супэрфасфату і 150—180 кілё калійнае солі (30 пр.). Па ўгноенай канюшыне, а таксама па прамому поўнаму ўгнаеньню — лён дае прыбаўку ўраджаю на 1 *га*—6—9 цэнт. трасты і 75—120 кілё семя.

Фасфарытная мука мае ад 16 да 20 проц. фосфарнай кіслаты і ў вадзе не рашчыняецца. На квасных і багатых перагноем глебах—фасфарытная мука часткова рашчыняецца ў глебавай вадзе і служыць для харчаваньня расьлін. Пераважна гэтае ўгнаеньне ідзе пад жыта на падзолістых глебах. На 1 *га* ўносіцца 500—750 кілё фасфарытнай мукі, пад барану, пасьля першай успашкі папару або па перадпасеўнай апрацоўцы глебы. Прыбаўка ўраджаю збожжа—2,5—6 цэнт. на 1 *га*. На стара-пахатных глебах добра дабаўляць яшчэ 0,9—1,5 цэнт. сульфат-амонія на 1 *га*.

На пясчаных і супясчаных глебах, бедных каліем— неабходна абавязкова ўносіць калійныя ўгнаеньні. Асабліва патрабуюць калійных угнаеньняў—бульба,

лён, бурак, канюшына, гарох, а таксама — лугавыя ўгодзьдзі. Асабліва добра дзейнічаюць калійныя солі разам з супэрфасфатам, а калі ў глебе мала азоту, дык з сульфат-амоніем. На 1 *га* трэба ўносіць ад 90 да 180 кілё калійнай солі (30 проц.), або 180—360 кілё сільвініту. У сумесі з супэрфасфатам і сульфат-амоніем—калійную соль трэба ўносіць за 2—4 тыдні да пасеву. Пад бульбу калійную соль лепш уносіць з восені.

Да пачатку вясны калгасы павінны сабраць 15.500 тон попелу, а ўсяго па БССР 30 тыс. тон, загатовіць 521 тысячу торфу і вывезьці 83.075 тон вапны. Трэба дабіцца таго, каб за зімовы час (да 15 сакавіка) поўнасьцю калгасы вывезьлі ў поле гной, торф і вапну. Для гэтага неабходна ў кожным калгасе вылучыць сталыя брыгады калгасьнікаў па сыстэматычнай вывазцы ўгнаеньняў. Да гэтых брыгад трэба прымацаваць неабходную колькасьць цягавай сілы, транспартных сродкаў і інвэнтару.

Аграном **С. Кудзінаў.**

# ТЭХНІКА ВЫРАСЬЛІВАНЬНЯ ПАРАСЯТ УВОСЕНЬ, ЗІМОЙ І РАНЬНЯЙ ВЯСНОЙ

Звычайна лічылася, што апаросы трэба вытвараць толькі вясной ці летам. У гаспадарцы пры Інстытуце Сьвінагадоўлі ў Менску апаросы 175 матак вытвараюцца круглы год ужо на працягу 3 год. Мы рашылі надрукаваць аб спосабах вырасьліваньня парасят зімой так як ён практыкуецца на фэрме гаспадаркі Інстытуту Сьвінагадоўлі.

Надрукаваньне гэтага спосабу вырасьліваньня парасят важна і таму, што ён часта ўродліва тлумачыцца і няўмела праводзіцца ў гаспадарках. Цэлы шэраг калгасаў і саўгасаў зусім яшчэ не падрыхтованы да вырасьліваньня зімовых апаросаў, хаця час ужо досыць позьні.

Для атрыманьня добрых апаросаў неабходна клапаціцца аб супарасных матках. Пакрытыя маткі ў нас утрымоўваюцца групамі па 10—30 штук на гнаі Утрыманьне на гнаі трэба разумець так, што падсьцілка і гной на працягу 2—3 месяцаў ня ўбіраецца са станкоў. Частка матак утрымоўваюцца ў станках, з якіх падсьцілка і гной убіраюцца сваячасова. Усе сьвіньні, як правіла, знаходзяцца на дварэ. Кормяцца маткі кармовымі сумесямі і сілосам, апошняга даецца па 3 клг. у суткі на галаву.

Для таго, каб мець добрых парасят, неабходна асабліва клапаціцца аб матках. Маткі павінны ўтрымоўвацца так, каб яны мелі сухое, мяккае памяшканьне. Лепш за ўсё гэта дасягаецца пры ўтрыманьні сьвіней групамі на гнаі, які пакрыты мяккай саломай. Надзвычай шкодным зьяўляецца для матак утрыманьне іх на цьвёрдай, цамэнтнай падлозе і нават на дзеравянай з малой колькасьцю мяккай падсьцілкі.

Шэраг спэцыялістаў гавораць, што маткі перад апаросам павінны быць ня тлустымі, а худымі. Гэтае палажэньне надзвычай шкоднае. Сьвіньня перад апаросам павінна быць дастаткова ўпітанай. Толькі добра ўпітаная матка можа добра выкарміць парасят. Упітанасьць маткі, бязумоўна, будзе нармальнай толькі тады, калі матка ня будзе запёртай, а карыстацца сыстэматычнымі прагулкамі і пашай. Племяная матка павінна быць рухомай і дастаткова ўпітанай, але не адкормленай. Тады толькі яна зможа вырасьліваць добрых парасят зімой і летам. Такія маткі могуць пакрывацца і ў падсосны пэрыяд.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на прагулку матак.

Сьвіньням і парасятам неабходна даваць рухацца не запіраць іх у загарадзі. На прагулку трэба зьвяртаць самую сур'ёзную ўвагу таму, што без прагулак у паросных матак парасяты раджаюцца слабымі, мала жыцьцяздольнымі і хутка гінуць. Прагулкі на сьвежым паветры павінны стаць такой-жа неабходнай справай, як і кармленьне сьвіней.

Мінэральныя кармы павінны абавязкова ўваходзіць у рацыён матак. За тыдзень або два да апаросу маткі пераводзяцца ў радзільнае аддзяленьне. Раней пераводзіць матку ў апароснае аддзяленьне ня трэба. За 5 дзён да апаросу корм паступова зьмяншаецца і к апаросу даводзіцца нават да палавіннага разьмеру. У корм павінна ўваходзіць аўсяная мука, пшанічныя вотрубі, ільняны або іншы добры жмых, караньплоды і сечка сена бабовых расьлін. Корм даецца ў вадкім выглядзе. Пояцца маткі ўволю. Прагулкі спыняюцца толькі за 1—2 дні да апаросу і да 3—5 дзён пасьля апаросу. Астатні час маткі павінна карыстацца прагулкамі на дварэ. У ціхую, хаця і марозную пагоду маткі павінны гуляць ня менш 1—2 гадзін, а ў дрэнную пагоду—менш.

Радзіўшыхся парасят абціраюць чыстай анучкай і падсажваюць да маткі. У маткі неабходна папярэдня абмыць вымя аднапроцантным растворам крэаліна.

Добрых парасят ад матак з добрымі якасьцямі маткі лепш адразу падсаджваць пад матку і застаўляць іх пры ёй. Такі спосаб больш нармальны, аднак, пры грузных і няўважлівых матках парасят трэба адсаджваць на першы час у скрынку. Неабходна прымяняць той або іншы догляд за парасятамі ў залежнасьці ад індывідуальных якасьцяй матак. Для адсадкі будзе добрай простая скрынка, якая зьверху закрываецца саломай ці мяшком. Абавязкова трэба пры закрываньні мець невялікую прадушыну, каб парасятам у скрынку праходзіла сьвежае паветра.



Як-жа паступіць з такімі парасятамі, якія родяцца кволымі і неданошанымі. Такіх парасят трэба пасадзіць у скрынку, а скрынку абагрэць бутэлькамі з гарачай вадой. Дзьве бутэлькі кладуць пад салому, каб парасяты не маглі апячыся. Праз некалькі гадзін або праз дзень парасяты становяцца зусім здаровымі і іх падагравадь больш ня варта. Здаровых, моцных парасят ня варта падагравадь, бо для іх падаграваньне будзе шкодным. Падагравадь трэба толькі слабых, неданошаных парасят.

Вельмі малочныя маткі ад недагляду часта хварэюць запаленьнем вымя пасьля апарссу. Гэта бывае ад вялікага скразьняка ў першыя два дні пасьля апаросу, а таксама ад невысасваньня малака парасятамі. У такіх выпадках трэба рабіць саграваючы кампрэс да вымя і здайваньне хворых саскоў.

Асноўны ўход за парасятамі заключаецца ў тым, каб забясьпечыць іх належным памяшканьнем, забясьпечыць чыстым паветрам, добрай падсьцілкай і правільным кармленьнем. Выходзячы з гэтага для выхаваньня парасят асеньня-зімовых і раньня-веснавых апаросаў раіцца прымяняць наступнае:

1. Памяшканьне для апаросу і вырасьліваньня парасят павінна быць сьветлае, сухое і адносна цёплае.

Тэмпэратура для вырасьліваньня парасят павінна быць 5—8°С. Яна можа павышацца да 10°С. У радзільным аддзяленьні тэмпэратура добра будзе пры 6—10°С. Павышаць тэмпэратуру вышэй 10°С ня трэба і нават шкодна.

У цёплую пару году тэмпэратура можа быць і вышэй 10°С. Высокая тэмпэратура зімой прыводзіць да аслабленьня арганізма парасят і матак.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вэнтыляцыю. Больш усяго гіне парасят ад сьпёртага, сырога паветра ў сьвінарніку. Толькі ў добрым сьвінарніку, з добрай вэнтыляцыяй можна вырасьліваць зімой парасят. У сувязі з тым, што вільгаць зьяўляецца навалай у сьвінагадоўлі, неабходна зімой забараніць часта мыць калідоры і падлогу сьвінарнікаў вадой, а прыбіраць іх сухім спосабам. Неабходна па магчымасьці менш наліваць вады ў сьвінарніку зімой, каб не разводзіць вільгаці. Трэба забараніць па белку сьвінарнікаў зімой. Уваходзячы ў сьвінарнік чалавек не павінен адчуваць ніякага смуроду. Чыстата паветра ў сьвінарніку павінна быць такой як



Карова мясцовай беларускай пароды з удоем 25 літраў у дзень (саўгас „Вязынь-Фаніполь").



у добрай кватэры. Гэта павінна быць усьвядомлена ўсімі работнікамі саўгасаў і калгасных фэрм.

2. Для пасьпяховага вырасьліваньня парасят неабходна матцы прадстаўляць мяккае, сухое памяшканьне. Для гэтага на палу кладзецца дастатковая колькасьці падсьцілкі, і асабліва ўважліва неабходна сачыць за тым, каб быў станок сухім. Вельмі добрай падсьцілкай будзе—тарфяная.

Малейшы бруд на палу станка забруджвае саскі маткі і парасяты хварэюць.

3. Жывёле ў памяшканьнях павінна быць прадстаўлена сьвежае паветра. Гэта павінна быць дасягнута вэнтыляцыяй. Акрамя гэтага, усёй жывёле павінны быць прадстаўлены прагулкі па двары або ў манежы.

Ні ў якім выпадку нельга трымаць парасят у сьвінарніку без прагулкі больш 10 дзён. Вопыт паказвае, што ўжо з 5 дзён, і асабліва к 20 дням, парасяты пачынаюць хварэць анэміяй і белым паносам. Калі праводзяцца прагулкі і сталае мінэральнае харчаваньне, гэтых захворваньняў не назіраецца.

Прагулкі парасятам і маткам можна даваць ня кожны дзень, а ў больш цёплую пагоду па 2 разы ў дзень. Спыняць прагулкі парасят, асабліва да 4 тыднёвага ўзросту, ня варта, больш чым на 1—3 дні. Спыненьне прагулак вядзе да аслабленьня парасят і іх захворваньня.

Падкорм парасят належыць пачынаць з таго часу, калі парасяты пачнуць есьці, але не пазьней 20 дню іх жыцьця. Да падкорму парасят належыць паіць сьвежай вадой, тэмпэратурай каля 10—15°. Паіць парасят абавязкова ад тых матак, якія даюць вельмі тлустае густое малако. Падкорм парасят можна пачынаць з зьнятага малака.

Бульбу належыць даваць з таго моманту, калі парасяты навучыліся есьці.

Самае асноўнае да чаго належыць імкнуцца пры вырасьліваньні парасят—гэта папярэджаньня белага паносу. Гэтая хвароба разьліваецца з асаблівай сілай да 3-тыднёвага ўзросту, калі парасяты гінуць у вялікай колькасьці.

Праблема вырасьліваньня парасят на працягу круглага году вырашана, і цяпер у нас стаіць праблема, як хутчэй прасунуць гэтыя мэтады вырасьліваньня парасят у саўгасы і калгасы.

Мы папераджаем, што вырасьліваньне парасят увосень, зімой і вясной патрабуе большай увагі. Неабходна быць вельмі чулым да запатрабаваньняў парасят у мінэральных матэрыях, сьвежым паветры, у сьвінарніку, у прагулках. Толькі пры здаровых умовах жыцьця жывёлы магчыма атрымаць здаровае патомства.

# ВЫШЭЙ ТЭМПЫ ПАДРЫХТОЎКІ ДА СЯЎБЫ!

## Калгас „КІМ“ па-ўдарнаму рыхтуецца да сяўбы

(*Чырвона-Слабодзкі раён*)

Пасьпяховае і поўнае выкананьне плянаў 3-яй бальшавіцкай вясны залежаць ад таго, як мы падрыхтуемся да яе. Своечасова і добра падрыхтавацца да веснавой сяўбы—гэта значыць забясьпечыць посьпех выкананьня плянаў веснавых работ.

Усё гэтае добра зразумеў калгас „КІМ“, Чырвона-Слабодзкага раёну, Смаліцкага сельсавету. Гэты калгас па-баявому распачаў падрыхтоўку да трэцяй бальшавіцкай вясны. Вось канкрэтныя самаабавязацельствы кімаўцаў: 1) рамонт збруі закончыць да 1 сакавіка, для чаго арганізавана брыгада з 3-х чалавек, 2) поўнасьцю ачысьціць насенны матар'ял, пратруціць яго ў час веснавой сяўбы, 3) пашырыць яравы клін за лік залежы ў параўнаньні з мінулым годам на 20 *га*, 4) поўнасьцю выканаць пляны веснавой сяўбы, максымум на працягу 15 дзён, 5) для кожнага віду работ у час веснавой сяўбы арганізаваць спэцыяльныя брыгады, паміж якімі заключыць сацумовы на лепшую якасьць працы, 6) поўнасьцю зьберагчы да вясны страхавы фуражны фонд, 7) усю работу, як у час падрыхтоўкі, так і ў час сяўбы перавесьці на зьдзельшчыну, 8) для таго, каб вызваліць ад хатняй працы жаночыя рукі, адчыніць дзіцячыя ясьлі да пачатку веснавой сяўбы і забясьпечыць бесьперабойную работу сталоўкі, 9) наладзіць сыстэматычны выпуск насьценгазэты ня менш аднаго разу ў дэкаду, пачынаючы з 1 лютага, 10) да 1 мая 1932 году ліквідаваць няпісьменнасьць калгасьнікаў.

Улічваючы, што вядучай галінай гаспадаркі калгасу „КІМ“ зьяўляецца жывёлагадоўля, калгас абавязаўся: палепшыць пашу, недапусьціць забою маладняка, выканаць і перавыканаць пляны па засеву кораньплодаў і траў, якія патрэбны для МТФ, зьнішчыць процант ялавасьці кароў, шляхам своечасовай злучкі.

Рамонт сельскагаспадарчага інвэнтару і ачыстку насеньня калгас скончыў ужо.

Калгас „КІМ“ абавязаўся да пачатку веснавой сяўбы дэталёва распрацаваць рашэньні XIV зьезду КП(б)Б і XVII усесаюзнай партканфэрэнцыі з тым, каб гэтыя рашэньні пакласьці ў аснову далейшай практычнай работы, як у час веснавой сяўбы, так і ў час правядзеньня ўборачнай асеньня-пасеўнай і наогул у час правядзеньня ўсёй работы.

Калгас „КІМ“ выклікаў на сацспаборніцтва па пытаньню своечасовай падрыхтоўкі і пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы ўсе калгасы Чырвона-Слабодзкага раёну.

**Кароль Кастусь.**

# ВЫСУНУЛІ СУСТРЭЧНЫ ПЛЯН СЯЎБЫ

(*Магілеўскі раён*)

У канцы студзеня месяца адбыўся агульны сход калгасьнікаў калгасу „Пралетары“, Вэндарскага сельсавету. На сходзе абгаварвалі плян правядзеньня трэцяй бальшавіцкай вясны.

Пры шырокім і актыўным удзеле калгасьнікаў праходзіла абгаварэньне кожнай лічбы, паказанай у пляне райкалгассаюзу. Асобныя калгасьнікі імкнуліся ня прыняць плян, але атрымалі дружны адпор усяго сходу.

Калгасьнікі высунулі сустрэчны плян на 17,5 *га* па наступных культурах: ільну па пляну 3 *га*—сустрэчны 2 *га* (усяго 5 *га*), ячменю па пляну 13 *га*, а прынята 22. Грэчкі па пляну няма, прынята 6 *га*. Кармовых траў па пляну няма, высунута 6 *га* і інш. Усяго плян прынят на 262,25 *га*.

Калгасьнікі па-бальшавіцку разгарнулі работу па падрыхтоўцы да сяўбы. Ачыстка насеньня поўнасьцю скончана, рамонт інвэнтару таксама скончан.

Кожны калгасьнік з энтузіязмам працуе ў калгаснай гаспадарцы. Калгасьнікі змагаюцца за выкананьне норм выпрацоўкі па зьдзельшчыне.

**Гэдя Модлін.**

# САЎГАС ЦІШАЎКА ДА СЯЎБЫ ГАТОЎ

(*Магілеўскі раён*)

Даныя XIV зьезду КП(б)Б і XVII канфэрэнцыі УсеКП(б) абавязацельствы па разгортваньні ўдарнай падрыхтоўкі да 3-й бальшавіцкай сяўбы, саўгас Цішаўка пасьпяхова праводзіць у жыцьцё. Саўгас па-баявому змагаецца за першынство ў раёне.

Праведзены ў палове лютага пробны выезд у поле паказаў, што саўгас па асноўных работах скончыў падрыхтоўку да сяўбы і гатоў сёньня выйсьці ў поле працаваць. Машыны, сельскагаспадарчы інвэнтар, транспарт, збруя знаходзяцца ў добрым становішчы, поўнасьцю адрамантаваны, змазаны і захаваны ў сухое памяшканьне. Машыны, інвэнтар і збруя пранумараваны і замацаваны за рабочымі.

Апрашвалі кожнага рабочага, ці ведае ён сваю машыну, ці адрамантавана яна і г. д.—усе адказвалі, што ведаюць свой нумар машыны, інвэнтару, на якіх яны будуць працаваць.

Рамонт інвэнтару, машын і транспарту скончан раней тэрміну на цэлы месяц. Па пляне патрэбна было скончыць рамонт да 15 сакавіка, а фактычна скончан да 13 лютага.

Перамога гэтая дасягнута дзякуючы рэалізацыі шэсьць умоў т. Сталіна. Трохкутнік саўгасу з пачатку разгортваньня падрыхтоўчай работы па пасеўнай кампаніі ліквідаваў абязьлічку па рамонце с.-г. інвэтару, машын, і перавёў кузьню на гаспадарчы

разьлік. Плян рамонту быў сваечасова абгаваран і даведзен да кожнага каваля. Выклікалі адзін аднаго на сацспаборніцтва. Каваль тав. Багамолаў перад пачаткам разгортваньня рамонту абвясьціў сябе ўдарнікам і паставіў перад сабой задачу: даць добрую якасьць рамонту і датэрмінова скончыць свой плян. Працаваў без перабояў і дамогся перавыкананьня пляну. Ударныя тэмпы праявіў у рамонце і цясьляр Станкевіч Осіп, які на аснове зьдзельшчыны і сумленных адносін да работы не адставаў ад каваля Багамолава. Рамонт транспарту Станкевіч скончыў раней тэрміну на месяц.

Разам з правадзімай работай па рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару пасьпяхова праходзіла работа і па ачыстцы насеньня. Усё насеньне ў саўгасе ачышчана. Па большасьці культур, асабліва гародніх, саўгас насеньнем забясьпечан. Насеньнем бульбы на 100,5 *га*, буракоў на 5 *га*, памідораў на 5 *га*, фасолі на 8 *га*, шчавелю на 2 *га*, бручкі сталовай на 20 *га*, часнаку на 0,5 *га*, кропу на 0,5 *га*, кмену на 0,5 *га*, морквы на 2 *га*, бручкі кармавой на 30 *га*, капусты позьняй на 40 *га* і раньняй на 10 *га*, гароху на 20 *га* (насеньня гароху на 40 цэнтнераў маецца больш)—саўгас забясьпечан.

Па пляну саўгас павінен закласьці 1.400 парніковых рам. Рамы поўнасьцю маюцца. Да 15 сакавіка патрэбна закласьці 500 парніковых рам. У гэтым напрамку вядзецца ўдарная работа. Ужо вывезена на 550 рам гною. Але дрэнна яшчэ праходзіць вязка мат. Да 25 лютага патрэбна было зьвязаць 550 мат, а зьвязана ўсяго толькі каля 100. Небясьпечна абстаіць справа ў саўгасе з вывазкай гною. Замест 7.300 тон, вывезена ўсяго толькі 800 тон. Гэта таму, што адміністрацыя саўгасу ня выканала пастановы агульнага сходу рабочых і дырэктыў мясцовых арганізацый, каб штодзенна выяжджала на вывазку гною ня менш як 40 фурманак. Выяжджае зараз ня больш 15—20. Гэты прарыў павінен быць неадкладна ліквідаваны.

Работа па захаваньні конскай цягавай сілы павінна быць узмоцнена. У гэтым напрамку прароблена некаторая работа—ліквідавана абязьлічка, коні прымацаваны да рабочых. Але догляд не пастаўлен на належную вышыню. Толькі адзін рабочы Станкевіч добрасумленна адносіцца да захаваньня каня да вясны. Пасьля работы Станкевіч заўсёды правярае канюха, каб яго коні былі сваячасова накормлены і напоены. Даволі часта Станкевіч сам поіць і корміць коняй. Амаль штодня чысьціць іх. Дзякуючы гэтаму прымацаваныя да Станкевіча 2 кані ў саўгасе адны з лепшых. За добры догляд Станкевіч прэміяваны. З яго павінны браць прыклад усе рабочыя саўгасу.



Калгасьнікі рамантуюць збрую.

На мітынгу, прысьвечаным пробнаму выезду ў поле рабочыя саўгасу абвясьцілі сябе ўдарнікамі 3-й бальшавіцкай вясны і абавязаліся яшчэ вышэй узьняць баявыя ўдарныя тэмпы падрыхтоўкі да сяўбы, неадкладна ліквідаваць маючыя прарывы ў вывазцы гною, закладцы парніковых рам і добрым захаваньні конскай цягавай сілы. Рабочыя абавязаліся шырока разгарнуць работу за поўнае забесьпячэньне насеньнем шляхам мабілізацыі мясцовых рэсурсаў, а таксама дапамагчы суседнім калгасам, асабліва ў рамонце с.-г. інвэнтару і машын.

Рабочыя саўгасу Цішаўка, на аснове рэалізацыі 6 умоў тав. Сталіна, яшчэ шырэй разгортваючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва—выйдуць пераможцамі ў 3-ю бальшавіцкую вясну, выканаюць узятыя на сябе абавязацельствы і заваююць пяршынство ў раёне.

Брыгада часопісі „Шляхі Калектывізацыі“
**Геня Модлін і А. Лясны.**

# УЗЯЦЬ ПРАПУШЧАНАЕ

(*Клічаўскі раён*)

На аснове правядзеньня генэральнай лініі партыі раён мае значныя посьпехі ў барацьбе супроць клясавага ворага—кулака і яго агентуры—правых і „левых“ апартуністаў, якія імкнуліся пашкодзіць справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, шляхам зрыву зьдзельшчыны, распальваньнем спажывецкіх настрояў сярод калгасьнікаў пры разьмеркаваньні ўраджаю і інш.

Маючы гэтыя посьпехі, здаецца, можна было-б і неабходна, забясьпечыць поўнае і сваячасовае правядзеньне падрыхтоўчай работы да 3-яй бальшавіцкай вясны. Але-ж на справе мы маем зусім іншы малюнак.

За гэтую работу павінен узяцца райкалгассаюз па-баявому, па-сапраўднаму. Праўда, плян веснавой сяўбы складзен і даведзен да кожнага калгасу, але што робіцца практычнага на мясцох—райкалгассаюз ня ведае. Напрыклад, старшыня райкалгассаюзу тав. Тоўпянец тлумачыць гэта тым, што „ў нас няма адпаведных працаўнікоў, якія-б сачылі за выкананьнем даных намі дырэктыў“ і, што „надта дрэнна пастаўлена справа са зьвесткамі ў калгасах“.

Тав. Тоўпянец, а што робіць райкалгассаюз?

Даныя цэнтрам дырэктывы па рамонту машын і сельскагаспадарчага інвэнтару дагэтуль знаходзяцца ў поўным заняпадзе. Хоць і арганізаваны майстэрні, але ў некаторых мясцох зусім не працуюць. У Грыбавецкім сельсавеце арганізавана 8 майстэрань, але з-за недахопу патрэбных матар'ялаў—работа сарвана, а райсельгасснаб не патурбаваўся забясьпечыць іх, хоць заяўкі на патрэбную колькасьць матар'ялаў былі дасланы яму сваячасова.

Ёсьць яшчэ і лепшыя пэрлы абязьлічкі ў справе рамонту машын і сельскагаспадарчага інвэнтару.



Тут-жа, пад бокам раённага цэнтру, калгас „Пяцігодка“, у якім старшыня праўленьня калгасу т. Ізох сваёй апартуністычнай работай зрывае арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасу. Да гэтага часу не ліквідавана абязьлічкі па ўсіх відах работ калгасу. Як вынікі такой безгаспадарчасьці—усе машыны, сельскагаспадарчы інвэнтар і прылады раскіданы і няма вучоту па неабходнасьці рамонту іх. Гэта стварае пагрозу зрыву рамонтнай кампаніі калгасу. Ды ня толькі пагэтаму калгасу. Аб гэтым сьведчыць сон у забыцьці райкалгассаюза, які ня мае ніякіх зьвестак па вучоту адрамантаваных машын і сельскагаспадарчага інвэнтару. Мо' па другіх калгасах справа стаіць яшчэ горш.

Райкалгассаюз, па становішчы на 1 лютага г.г., ня меў ніякіх зьвестак аб ходзе ачысткі насеньня і стварэньні страхавых фондаў, хаця старшыня райкалгассаюзу і гаворыць, што страхавы фонд сабраны і ачыстка насеньня ўжо распачата па калгасах.

Неабходна прыкладаць максымум энэргіі і ўвагі, стварэньню насенных фондаў і ачысткі насеньня, забясьпечыўшы правільнае кіраўніцтва гэтую справу на аснове 6-ці ўмоў т. Сталіна, бо 5.237 цэнтн. аўса, 3.343 цэнтн. ячменю і 236 цэнтн. яравой пшаніцы за адзін дзень ня хопіш ачысьціць. Справе падвышэньня ўраджайнасьці мы павінны надаць самую сур'ёзную ўвагу, а пасеў ачышчаным, добрагатунковым насеньнем—забясьпечыць добры ўраджай. Гэтай першай умовы агратэхнікі райкалгассаюз не прытрымоўваецца і ня хоча ёю займацца.

Справа з адмысловым сэкгарам знаходзіцца зусім у заняпадзе па ачыстцы насеньня. Калі па калгаснай сыстэме ачыстка ўжо распачата (па словах старшыні райкалгассаюзу), хоць ідзе і марудна, дык па адмысловаму сэктару ў гэтай галіне нічога ня зроблена: няма ўліку патрэбнай колькасьці насеньня, насеннага страхавога фонду. Праўда, Райза плян веснавой сяўбы склазен і даведзен да сельсаветаў і на гэтым супакоіліся, чакаючы пакуль нехта ня зробіць за іх, а па сьлядох райза ідуць і сельскія саветы, забываючы тое, што ў гэтую веснавую сяўбу, адмысловы сэктар яшчэ будзе адыгрываць значную ролю ў вырашэньні збожжавай праблемы.

Ня лепш абстаіць справа і з захаваньнем бульбы на насеньне. Загадчык райза т. Бабрыка з поўнай яснасьцю заявіў, што яшчэ не праверана наяўнасьць насеннай бульбы. Ды ёсьць па раёну яшчэ злачыннейшыя факты адносін да бульбы. Так, па злачыннай нядбайнасьці праўленьня і старшыні калгасу „Пяцігодка“ тав. Ізоха згноена каля 1.500 пудоў бульбы і, каб прыкрыць канцы злачынства, старшыня калгасу дазволіў калгасьнікам браць бульбы колькі каму патрэбна, ня ўлічваючы разьмеркаваньня па працаднёх. Разабраную бульбу старшыня разьнёс па рахунках кожнага калгасьніка з надбаўкай.

Гэты факт сьведчыць аб поўнай нядбайнасьці і шкодных адносінах да арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасу. Нават, калі перадавыя калгасьнікі паспрабавалі даць палітычную ацэнку гэтай зьяве, дык прысутнічаючы на гэтым сходзе старшыня Клічаўскага сельсавету імкнуўся зажаць самакрытыку, не даваў гаварыць ім.

Асаблівую ўвагу заслугоўвае зрыў загатоўкі тэхнічнага насеньня і траў. Насенканторай да гэтага часу не загатоўлена ні аднаго кілё тэхнічных траў. Райза і райкалгассаюз ня цікавяцца гэтай справай, забыўшы тое, што завозу гэтых гатункаў насеньня з другіх раёнаў ня будзе.

Ліквідаваць маючыя прарывы ў рабоце райкалгассаюзу, райза, насенкаторы і іншых гаспадарчых арганізацый і ўстаноў. Узяць пратупшчанае, паставіўшы перад сабою асноўнай задачай—арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, рашучай барацьбы на два фронты,—супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, „левых“ загібаў і прымірэнцтва да ўхілаў.

Р. К.

# Работа на тармазох

*(Рагачэўскі раён)*

Па пляну Трактарацэнтру Рагачэўская машынатрактарная станцыя да 1-III—1932 г. павінна адрамантаваць 200 трактароў розных фірм. Майстэрня пры МТС працуе ўжо больш трох месяцаў, а за гэты час адрамантавана ўсяго толькі 21 трактар і 15 блёкаў. Ды яшчэ раней гэтага тэрміну неабходна адрамантаваць 20 трактароў. Такім чынам, плян за тры месяцы выканан усяго толькі на 25 пр.

Чым тлумачыцца такая марудная праца рамонту трактароў? Прычын такіх ганебных тэмпаў рамонту вельмі шмат. Галоўныя прычыны гэта тыя, што ў аснову працы ня былі пакладзены 6 умоў правадыра партыі тав. Сталіна. Набор кваліфікаванай сілы камплектаваўся самацёкам, ішоў хто толькі хацеў. Ёсьць такія рабочыя, якія ня ўмеюць нават працаваць на звычайных станкох (у майстэрні ёсьць станкі новых канструкцый з вымяральнымі прыборамі). у выніку — няўмелае карыстаньне прыводзіць да частай паломкі.

Тэхнічнае навучаньне рабочых не праводзіцца, нягледзячы на тое, што рабочыя самі паднімалі пытаньне аб тэхнічнай вучобе.

Майстэрня не пераведзена на гаспадарчы разрахунак. Хаця ў майстэрні ёсьць тры гаспадарча-разьліковыя брыгады, але вывучэньнем іх працы ніхто ня цікавіцца і праца іх не папулярызавана сярод астатніх рабочых (астатнія рабочыя працуюць маленькімі групамі па 2—3 чал.).

Ёсьць выпадкі, калі складзены трактар зусім не працуе, бо няўмелае складаньне псуе толькі справу рамонту. Не хапае тэхпэрсаналу для кіраўніцтва рабочымі брыгадамі і адміністрацыя на гэта ніякай увагі не зьвяртае.

Неабходна зараз-жа перабудаваць працу майстэрні на аснове 6 умоў т. Сталіна і скончыць рамонт трактароў да вызначанага тэрміну—1 сакавіка 1932 г.

Я. Савіцкі, Х. Разумцова

Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 419. 2370 экз. Упаўнаважаны Галоўлітбелу № А-



Шляхі Калектывізацыі

Шляхі Калектывізацыі




Калектыв

На 1 год—24 нумары 3 р.
„ 6 мес.—12 „ 1 р. 50 к.
„ 3 мес. 6 „ — 75 к.
„ 1 „ 2 „ — 25 к.

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ

Адрас рэдакцыі часопісу: гор. МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 66